# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 6 (226) (чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus



**Змест**



ЭСЭ

# «Пусьці глыбей карэньні…»

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

## Падарунак з лясной хаткі

На маёй ксеракопіі «Беларуска-польска-расейска-лацінскага батанічнага слоўніка» ёсць дарчы надпіс: «Паважанаму і дарагому Валодзі Ягоўдзіку на добрую памятку даўгога знаёмства. З. Верас. 26/IX. 1987. Вільня».

У Панарскім лесе я быў летам, восенню і зімой, а вясной 1977 года запрасіў туды Лілію і Марыю, студэнтак аднаго з мінскіх інстытутаў. Так шчасліва склалася: праз дзесяць месяцаў Марыя стала маёй жонкай.

— Ты помніш першую вандроўку да Людвікі Антонаўны? — спытаў я.

— На вакзале нас чакаў Лявон Луцкевіч, — адказала Марыя, — потым паехалі на ўскраіну горада. З паўгадзіны ішлі па лясной дарозе, а навокал, куды ні зірнеш, цвілі пралескі…

Той красавіцкі дзень выдаўся сонечны, пагодлівы, вясна і юнацтва расхінулі перад намі дзівосныя блакітныя дываны.

Хата, дзе жыла Зоська Верас, стаяла на прыгорку. Шыферны дах, вялікія вокны, да светлых глінабітных сценаў прытулены жардзінкі, абвітыя вінаградный лазой. Гаспадыню спаткалі на падворку — худзенькую, у балоневай курткі, з кіёчкам у руцэ. Спачатку яна паказала нам цяпліцу, дзе была печка, складзеная з чырвонай цэглы, — каб расаду не пабілі прымаразкі. На адной градцы ўжо тырчалі зялёныя вушкі цыбулі. Людвіка



Зоська ВЕРАС у ролі Ганкі з камедыі «Модны шляхцюк» Каруся КАГАНЦА. 1911 г.

Антонаўна пахваліла ўнука Слаўку:

— Гародніцтва і садаводства яго любімы занятак…

— Толькі бяда, калі засуха, — дадаў Лявон Антонавіч. — Я прабіў тры свідравіны, але не знайшоў вадзяную жылу. Таму зімой запасаемся снегам, а летам залежым ад нябеснай палівачкі.

Зайшлі ў хату. У пакоі пахла сухімі зёлкамі, на сцяне вісеў партрэт, які напісаў мастак Пётра Сергіевіч. На палатне Зоська Верас сядзела ў крэсле, трымаючы на каленях свайго любімца — чорнага ката. Пытанні мы задавалі ў блакноце алоўкам, бо ў маладосці Людвіка Антонаўна амаль страціла слых. Калі зайшла гаворка пра Гродзенскі гуртток беларускай моладзі, што ўзнік у 1909 годзе, яна прынесла альбом з фотакарткамі. На адным здымку мы адразу пазналі прыгажуню з пацеркамі на шыі, у белай кофце і фартуху ў палоскі.

— У камедыі «Модны шляхцюк» Каруся Каганца я выконвала ролю Ганкі, — расказвала Людвіка Антонаўна, быццам гэта было на мінулым тыдні. — Хлопцы зрабілі сцэну, запрасілі музы́ку, вясельнага скрыпача. А дзе ўзяць адпаведную вопратку?.. Я мела знаёмых сялян і прывезла з вёскі два мяшкі рэквізіту. Гралі без грыму, але з энтузіязмам. На прэм'еру з Вільні прыехаў Іван Луцкевіч, потым у «Нашай Ніве» з'явілася яго прыхільная рэцэнзія.

У альбоме ляжала вытканая закладка. Мае спадароджніцы доўга не выпускалі яе з рук, захопленыя прыгожымі ўзорамі. Не заўважылі, як мінула некалькі гадзін, трэба развітвацца, каб паспець на цягнік. Гаспадыня ўзяла ў шафе і падала мне невялічкі пакунак.

— Можа, вам прыдасца да гарнітура…

Гэта аказаўся гальштук, вытканы ўмелымі рукамі. Яго цёмную аснову з сіняй акаймоўкай аздабілялі сонечныя макавіны, а зверху быў жоўты рамбавідны ўзор. На адвароце ніжняй стужкі майстар пазначыў ніткамі дату: «1976 г.»

Я падзякаваў за падарунак, і мы развіталіся. Праз тыдзень, прыехаўшы ў Мінск, напісаў у лясную хату. Неўзабаве прыйшоў адказ:

*«26. IV. 77. Вельмі мяне ўцешыла, што Вашая таварышка зацікавілася ткацтвам. Праўда, шкада, чаму адразу мне аб гэтым не сказала. Выясьнілася б адразу ўсё тут, на мейцы. Але нічога. Скажыце Ёй, што навучыцца ткаць рэч зусім магчымая, і я зраблю ўсё, каб Яе жаданьне зьдзейсьнілася. Справа ў тым, што тут у нас у Вільні ёсьць адзін беларус — завуч сярэдняй школы, які цудоўна тчэ паяскі, гальштукі, закладкі. Ён мае вялікі альбом сваіх вырабаў. <…> Я дагаваруся з гэтым Грамадзянінам, каб Ён мог ахвяраваць некалькі гадзін на навуку і напішу. Думаю, што не раней, як у летнія кнікулы… Тады Вашая Таварышка прыехала б да мяне….»*

У пачатку лета, прыгадаўшы нашую красавіцкую сустрэчу, Людвіка Антонаўна пыталася:

*«2/VI. 77. Ці Вашая Таварышка, што хацела навучыцца ткаць паяскі і гальштукі, і надалей ма́е на гэта ахвоту? Калі так, то скажыце Ёй, калі ласка, што я дагаварылася з гэтым грамадзянінам — Іванам Адамавічам Тулейкам. Ён ахвотна згадзіўся навучыць, але толькі ў другой палове ліпня, бо цяпер едзе на нейкія курсы. Тады можна Ёй будзе паразумецца дакладна праз мяне і да мяне прыехаць, а тут усё наладзім. Я была б вельмі рада, каб яна навучылася. У гр. І. Тулейкі вялікі цудоўны альбом гэтых яго вырабаў. Аж вочы разьбягаюцца, невядома на што глядзець…»*



Гасціны ў лясной хатцы.
Зоська ВЕРАС, У. ЯГОЎДЗІК, А. ЦЫРКУНОЎ. 1985 г.

Мая таварышка не здзейсніла свой намер: у чэрвені яна атрымала дыплом і паехала працаваць. Я забыўся спытаць у Зоські Верас, хто выткаў гальштук, цяпер дакараю сябе, што не напрасіўся ў вучні да спадара Тулейкі, тады не меў бы клопату з навагоднімі і юбілейнымі падарункамі для сяброў.

## «Пусьці глыбей карэньні…»

У аддзеле крытыкі «ЛіМа», дзе я працаваў у 1980-я гады, стаяла кніжная шафа, там захоўваліся старыя падшыўкі газеты, папкі з дасланымі ў рэдакцыю артыкуламі і рэцэнзіямі, перапіска з аўтарамі.

Шуфляды майго стала запаланілі паперы, значыць, трэба зрабіць рэвізію. Чарнавікі з праўкамі выкінуў у сметніцу, некаторыя матэрыялы вырашыў пакласці ў шафу. Толькі адчыніў шкляныя дзверцы — пасыпаліся старонкі з незавязаных папак. Збіраючы паперы, убачыў на падлозе канверт з малюнкам, прысвечаным першамайскаму святу. У канверце ляжаў невялікі здымак, я дастаў яго і здзівіўся, убачыўшы ўнізе прыгожы цёмна-сіні подпіс. Гэта аказаўся аўтограф Якуба Коласа.





Аўтограф на здымку



Маім маладым, мілым сябрам
шлю сардэчныя павіншаваньні і шчырыя
найлепшыя пажаданьні на Нова-1976-Год.
Нехай Вам усім спрыяюць добрае здароўе,
вясёлы настрой, поспехі ў навуцы,
а галоўная сіла волі, каб моцна трымацца
роднай, беларускай сцежкі!
Зоська Верас.

Вільня
25/XII. 75 г.

Паштоўка Зоські ВЕРАС. 1975 г.

Заканчэнне на стар. 2 »

# «Пусьці глыбей карэньні…»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1

Канстанцін Міхайлавіч сфатаграфаваны ў кепцы, з расшпіленым паліто, на белай кашулі — гальштук, за спіной удалечыні праглядваюцца лес, вясковыя хаты. Здымак аматарскі, зроблены ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, на адвароце засталіся плямы ад клею, значыць, захоўваўся ў альбоме. З аднаго боку твар моцна зацемнены, але роўна відаць добрая ўсмешка. Хутчэй за ўсё партрэт не трапіў на газетную паласу, бо не падлягаў рэтушы.

Пасля работы я прыехаў на кватэру да старэйшага сябра перакладчыка Алеся Траяноўскага і пахваліўся знаходкай.

— Аднойчы ў пяцідзясятыя гады мы сустрэліся на вуліцы каля Акадэміі навук, — сказаў Алесь Пятровіч, — я прывітаўся, ён кіўнуў мне галавой, і мы размінуліся.

— А чаму не спынілі, не паразмаўлялі?

— Можа, асмеліўся б, каб меў з сабой вось гэтую кнігу…

Алесь Пятровіч узяў на паліцы і падаў мне ладны томік у цвёрдай вокладцы. На тытульнай старонцы я прачытаў: «Тарас Гушча. Родные зьявы. Вільня. 1914. Друкарня Марціна Кухты». Адразу прыгадаў Максімавы радкі: «Я не самотны, я кнігу маю // З друкарні пана Марціна Кухты».

Пад назвай змешчаны герб «Лебедзь» графіні Марыі Магдалены Радзівіл з роду Завішаў. Менавіта дзякуючы яе грашовым ахвяраванням убачылі свет «Вянок» Максіма Багдановіча, «Рунь» Максіма Гарэцкага, «Курганная кветка» Канстанцыі Буйло, шмат іншых беларускіх выданняў.

— Адкуль такі рэрытэт? — пацікавіўся я.

— З букіністычнай кнігарні, — патлумачыў Траяноўскі, — у шасцідзясятыя гады ў Вільні часам трапляліся нашаніўскія выданні.

Я папрасіў пачытаць «Родныя зьявы» і цэлы вечар не выпускаў з рук. Адкрывае кнігу абразок «Думкі ў дарозе»:

«Далёкае, няведамае, сіняе неба! Тысячы, мільёны гадоў пазіраеш ты бяз болю, без трывогі, пазіраеш на ўсіх роўна: на чалавека, на зьвера, на птушку, на самую маленькую мушку, на жывых і нежывых, на нашу бедную зямлю, залітую крывёю і горкімі сьлязьмі сіраты — народа. Далёкае неба, сіняе неба! Чаму не дасі адказу на нашу пакуту, на нашы надзеі, на нашы блуканьні? Чаму не асушыш нашы горкіч сьлёзы? не супакоіш хворую душу і сэрца? Чаму не папаліш агнём справядлівым таго ліхога зьвера, што сее заразу, топчэ праўду і носіць няшчасьце па нашай зямлі?..»




Апавяданні «Малады дубок», «Выбар старшыны», «Староста» сталі класікай нашай прозы. Побач надрукаваны «Дудар», «Зло — не заўсёды зло», «Кажух старога Анісіма», а завяршаюць зборнік «Казкі жыцця» (пазней гэтую казку аўтар назваў «Адзінокае дрэва»):

«Толькі ж раз паднялася навальніца. Хмары, як мухі над гаршком куцці, віліся чорным роем над зямлёй, апіраваючыся агнявістымі стружкамі. Страшна было. Але трэба было ўмяшацца тут ветру, і цяпер ён зьявіўся такім, якім ён і ёсьць па сваёй натуры: буянам і забіякай. Чуць-чуць стрывала беднае дрэва — так рваў і крышыў яго вецер. Нават крумкач павінен быў моцна ўшчаміць кабдзюрамі галіну, каб ня скінуцца… Убачыла дрэва, што сябры яго пакінулі.

— Што рабіць?

— Пусьці глыбей карэньні ў зямлю, — параіў крумкач, мудрая птушка, лецючы на раздабыткі».

Першае алегарычнае апавяданне Якуб Колас апублікаваў у газеце «Нашая Ніва» ў 1906 годзе, а праз паўстагоддзя напісаў апошняе; увесь гэты цыкл аб'ядноўвае 32 назвы. «Казкі жыцця» ён лічыў адным творам, ставіў побач з паэмамі «Новая зямля» і «Сымон-музыка».

Некалькі тыдняў я не заходзіў да Алеся Пятровіча, нарэшце запрасіў на вячэру, каб аддаць кнігу. Убачыўшы на маім пісьмовым стале фотаздымак паэта з аўтографам, ён пажартаваў:

— Дзядзьку Якубу тут цяплей, чым сядзець на плошчы яго імя. Няхай «Родныя зьявы» застануцца ў цябе.

Я не чытаю ўсякія сучасныя фэнтэзі, бо даўно ведаю, што самыя цікавыя, мудрыя і страшныя казкі не прыдуманыя, не высмактаныя з пальца, а напісаны менавіта жыццём.

## Срэбная сальнічка

Алена Лось ахвотна супрацоўнічала з часопісам «Бярозка». Аднойчы восенню яна пазваніла мне, што прастудзілася, не можа прынесці малюнак і папрасіла заглянуць у майстэрню.

Да вуліцы Сурганава ад рэдакцыі хвілін дзесяць хады. Я падняўся на апошні паверх, адчыніў дзверы і… трапіў у музей. Каля сцяны стаялі кніжныя шафы, а над шафамі, на паліцах, ганчарныя збанкі з букетамі засушаных кветак, дзіцячыя цацкі — драўляныя, саламяныя, шкляныя… Я пачаў лічыць гліняных катоў, але збіўся з ліку. Падаконнік займалі вазоны, падобныя на экзатычныя расліны, а на стале ўсміхаліся прыгажуні ў шыкоўных уборах, створаныя гаспадыняй майстэрні з драўляных таўкачыкаў.

— Давайце падмацуемся, — прапанавала яна, — я завару смачную гарбату…

На сурвэтцы, побач з бутэрбродамі, зваранымі яйкамі і памідорамі, стаяла прыгожая сальнічка, аздобленая раслінным узорам.

— Мабыць, антыкварная? — спытаў я,

— Гэта срэбраная сальнічка маёй мамы, — сказала Алена Георгіеўна і дастала з шуфляды сшытак з карычневай вокладкай. — Яна валодала французскай, нямецкай і польскай мовамі, кожны дзень штосьці чытала, а свае ўражанні запісвала. Можа, вас зацікавіць яе дзённік?..


Алена ЛОСЬ

…Я пазнаёміўся з Аленай Аляксандраўнай Кандрацьцевай у пачатку 90-х, калі мастачка запрасіла мяне на кватэру. Мы сядзелі на канапе і размаўлялі. На каленях Алены Аляксандраўны прымасцілася пухнатая кошка чорна-белай масці. Я хацеў яе пагладзіць, але не паспеў: руку апяклі кіпцюры, аж засталіся крывяныя драпіны.

— Вы самі вінаватыя, — паўшчувала мяне суразмоўніца, — бо забылі спытаць дазвол у дамы…

Алена Аляксандраўна нарадзілася ў сям'і афіцэра царскай арміі. Ратуючыся ад пераследу бальшавікоў, ён пасяліўся ў Заходняй Беларусі, стаў святаром. Яго дачка, скончыўшы гімназію, выйшла замуж за Георгія Лася, выпускніка медыцынскага факультэта Віленскага універсітэта.

А тым восеньскім днём, выпіўшы гарбаты, мы пагладзелі нацюрморты з палявымі кветкамі, напісанымі за апошні час. Я падзякаваў за пачастку, паклаў у сваю папку малюнак і сшытак.

— Мама ўспамінала, як вас пакрыўдзіўла Мурка, — сказала Алена Георгіеўна, — толькі не адмаўляйцеся, вазьміце на памяць яе сальнічку…

Праз некалькі дзён я разгарнуў той сшытак з дробным, неразборлівым почыркам. Запісы нагадвалі цытатнік з Гётэ, Дастаеўскага, Сартра… На адной старонцы была прыклеена паштовая марка — партрэт папы Яна Паўла ІІ. Потым прачытаў дзіцячы ўспамін (тут і далей пераклад мой — У. Я.):

*«У 1918 годзе ў Адэсе п'яныя матросы з чырвонымі павязкамі забіралі мужчын проста на вуліцы і вялі пад канвоем на крэйсер «Алмаз». А там, звязаўшы іх, кідалі за борт, на немінучую смерць.*

*Мы стаялі ў булачнай лаўцы. Раптам уварваліся матросы, убачыўшы на тату куртку, перашытую з афіцэрскага шыняля, яны закрычалі: «На "Алмаз"!.. На "Алмаз"!..». Людзі, якія былі побач з намі, спынілі іх: «Вы не маеце права!..» Хтосьці шапнуў: «Уцякайце…» Тата схапіў мяне за руку, і мы беглі, беглі, беглі…»*

Такіх абразкоў, сабраных на жыццёвай дарозе, аказалася цэлая жменя, яны нібы зярняты, выспеленыя ў душы. Ніводнага лішняга слова, толькі пра тое, што немагчыма забыць.

*«Восенню 1939 года, калі Заходняю Беларусь далучылі да БССР, у наша мястэчка, каб агітаваць моладзь, прыслалі камсамольцаў. Іх пасялілі на халоднай верандзе, кепска апранутых, з галоднымі вачамі. Бывала, яны заходзілі ў бальніцу, прасілі наліць міску супу.*

*— Няўжо ў Савецкім Саюзе могуць арыштаваць невіноўнага чалавека? — спытаўся ў іх санітар, які даглядаў хворых.*

*Пару гадоў таму ягоны брат-камуніст уцёк ад польскай паліцыі да саветаў, аднак апынуўся на Беламорканале.*

*— Не ведаю, — адказала яму камсамолка, — праўда, у тым палку, дзе служыць мой бацька, з трыццаці двух царскіх афіцэраў нядаўна забралі трыццаць першага…»*

Падчас нямецкай акупацыі, каб пракарміць сябе і дачку, Алена Кандрацьцева працавала ў лясніцтве. 22 студзеня 1944 года вёску Байкі акружылі карнікі. Пачуўшы пра гэта, яна дамагалася ад начальніка, пажылога немца, каб ён паехаў і вызваліў работнікаў лясніцтва, якія жылі ў Байках. Потым ляснічы расказаў, што вёску акружылі салдаты штрафнога батальёна, іхні камандзір адпусціў некалькі сем'яў, больш за трыццаць чалавек. У той дзень фашысты расстралялі 949 мірных жыхароў.

Пасля перамогі Алену Аляксандраўну арыштавалі. Людзі сабралі подпісы, што яна не служыла акупантам, і такім чынам выратавалі ад лагерных пакутаў.

Я карыстаюся сальнічкай, бо гэта не сувенір.

«Было б хлеба ды солі і даволі», — кажа народная прымаўка. А соль зямлі, як вядома, — сумленныя людзі, якія жывуць з Богам у сэрцы.


Сальнічка

# «Імкніся да сябе…»

Нездарма чалавек на крыжы
так нагадвае птушку…

*Мікола Арахоўскі*

Марыя НОВІК

Ён ляжаў ніцма. На высокім, як мне здалося, ложку. Такі магутны, шыракаплечы… І так шчыра, шырока ўсміхаўся… Ад нечаканасці ў мяне, мабыць, быў надта разгублены выгляд. Ведала, што Мікола Арахоўскі не можа хадзіць, што ў яго пашкоджаны пазваночнік, што мáе падобны да Ніны Мацяш лёс, але што сустрэне нас вось так — была для мяне нечаканка… А ў хаце зрабілася гаманліва, узрушліва, шчыра-радасна. Гучалі прыветныя галасы Уладзіміра Андрэевіча Калесніка, Ніны Мацяш, бацькоў Міколы… А сам ён — шчасліва ўсміхаўся. Чамусьці вельмі помніцца гэтая адкрытая ўсмешка… Пачалася гамонка, як быццам У. Калеснік і М. Арахоўскі нядаўна бачыліся. Ды ёсць што і абмеркаваць па-сяброўску — і літаратурнае жыццё, і грамадска-культурныя падзеі ў краіне, і творчасць. А Мікола гэтак і ляжаў, пасля браў лісты, паказваў намаляванае, браў алоўак, спрабаваў пісаць, трымаючы яго абедзвюма рукамі… Уразіла яго балючае выказванне пра лёс Беларусі. Нават не выказванне, а дзіўныя вобразы, намаляваныя ў яго свядомасці, а таксама графічныя эскізы, якія ён паказваў, суправаджаючы сваё меркаванне. Знешне ўраўнаважаны, але і нейк па-асабліваму ўзрушаны, Уладзімір Андрэевіч жартаваў і адгукаўся, пытаўся, прапаноўваў, нейк лагодна часам не пагаджаўся з даволі рэзкімі трагічнымі вобразамі сучаснай Беларусі ва ўспрыманні М. Арахоўскага. Гэта была гаворка блізкіх людзей, якія разумелі адзін аднаго, да таго ж выяўлялася ў іхніх стасунках нешта па-бацькоўску цёплае, сардэчнае з боку У. Калесніка.



Мікола АРАХОЎСКІ з жонкай. Вясельны фотаздымак. 1977 г.

На працягу ўсяго жыцця і Ніна Мацяш, і Мікола Арахоўскі адчувалі падтрымку іх талентаў, падтрымку творчых асобаў з такім драматычным лёсам.

Міколу Арахоўскаму, мабыць, асабліва патрэбна было такое мужчынскае творчае сурazмоўе, таму і сустрэчы гэтыя былі для яго шчасцем, таму і напісаў, як не стала У. Калесніка, што няма каму да яго прыехаць: «І рэч не ў тым, што няма часу, няма бензіну… У Калесніка часу і бензіну хапала на ўсіх». Мікола Арахоўскі адзначыць тое вартаснае ў характары У. Калесніка, што многія гады падтрымлівала і ягоны дух: «Але ж было ў яго нешта яшчэ больш каштоўнае: надзвычай жывое, адкрытае людзям сэрца, светлая душа».

Уладзімір Калеснік імкнуўся спрыяць творчаму росту Міколы Арахоўскага, які, нягледзячы на шматпакутны лёс, выяўляў прыродны дар тварыць, выказваць свае інтэлектуальныя здольнасці ў мастацкіх і публіцыстычных творах, з неверагоднай сілай духу трываў фізічныя пакуты.

Мікола Арахоўскі нарадзіўся 3 ліпеня 1950 года ў прыгожай мясціне Беларусі — вёсцы Сялец, што недалёка ад рэчкі Ясельда. Гэта радзіма знакамітых асобаў нацыянальнай гісторыі, з найбліжэйшай гісторыі — гэта радзіма трох талентаў: Алеся Разанава, Міколы Арахоўскага, Віктара Супрунчука. Краязнаўца Мікола Пейган, сябра дзяцінства М. Арахоўскага, успамінаў падчас адной з сустрэчаў, пра якую распавядае Ала Драган, як яны, падлеткі, «падчас дзіцячых забаў рызыкоўна скакалі ў рэчку з вышкі, і Мікола рабіў гэта лепей за ўсіх — ён ішоў у ваду прыгожа, ластаўкай…» Трагічна закончыўся яго палёт у раку Мухавец у 1977 годзе, неўзабаве пасля жаніцьбы, і больш за 20 гадоў вымусіў яго лётаць у снах, у мроях, у сваіх творчых фантазіях. Жыў у сваёй роднай хаце пад апекай бацькоў: маці — Вольгі Аляксандраўны, заслужанай калгасніцы Беларусі, бацькі — былога франтавіка, сясцёр. Адораны ад прыроды творчымі здольнасцямі, пакліканы да мастацтва, Мікола Арахоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця будзе ісці да раскрыцця найлепшых якасцей свайго «Я». Так прапануе і іншым сцвярджацца ў жыцці. У лісце да пісьменніцы Валянціны Куксы, якая таксама знаходзілася ў працэсе творчага росту, пошукаў, сцвярджаў: «Імкніся да сябе… Гэта прывядзе цябе на самую высокую тваю вяршыню».

Мастак паводле адукацыі і паклікання, ён мужна ішоў няпростымі, жорсткімі сцежкамі да сваёй вяршыні. Яму хацелася тварыць прыгажосць сваімі рукамі. Невыпадкова ж былі ў яго жыцці вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, куды прыехаў пасля дзевяці класаў школы. Быў і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага роспісу, дзе ў настаўніках — Гаўрыла Вашчанка. Спрабаваў сябе ў жывапісе, графіцы, чаканцы, выпальванні па дрэве. Арыгінальна, таленавіта былі створаны партрэты Ніны Мацяш і яе бацькоў. Сёння яны знаходзяцца ў бібліятэцы імя Ніны Мацяш у Белаазёрску. Не скорыцца слабасці фізічнай, будзе разам з бацькам ладзіць разнастайныя прыстасаванні, каб мець магчымасць, лежачы, маляваць, пісаць, друкаваць. Будзе рабіць гэта, трымаючы ручку абедзвюма рукамі, а то і дапамагаючы зубамі… Уражваюць ягоныя агульныя сшыткі, спісаныя акуратным почыркам, рознымі шрыфтамі, бо гэтага патрабуе афармленне драматычных твораў. Некаторыя п'есы ён пісаў-перапісваў у некалькіх экземплярах, каб разаслаць розным асобам для прачытання і водгуку. Праз няпростыя роздумы над лёсам асабістым, лёсам блізкіх людзей, праз боль і пакуты ён будзе расці да філосафа-пісьменніка, што стане выяўляць сваё ўнутранае «Я» чалавека-гуманіста, чалавека-грамадзяніна, заклапочанага лёсам асобнага чалавека ў сучасным грамадстве, лёсам сваёй Радзімы, Беларусі.

Ягоныя п'есы, хоць і няпроста, ішлі да тэатральных пастановак, аднак паступова гледачы ды крытыкі ўбачаць новыя тэндэнцыі, новыя эстэтычныя якасці і падыходы ў яго творах, адзначаць Міколу Арахоўскага як аднаго з прадстаўнікоў мадэрністкай плыні ў беларускай драматургіі. Пятро Васючэнка, аналізуючы драматургічную творчасць 1980—1990 гадоў, адзначыць, што «сінтэз традыцыйнага і эксперыментальнага найлепш удаўся драматургу Міколу Арахоўскаму». У ягоных п'есах галоўнай праблемай становіцца ўнутранае «Я» чалавека, сапраўднае і фальшывае, праблема маральнага разбурэння асобы, дэградацыя чалавека ў сучасным свеце. Невыпадкова п'есы Міколы Арахоўскага будуць пастаўлены таленавітымі беларускімі рэжысёрамі: Валерыем Анісенкам і Валерыем Мазынскім. Валеры Анісенка, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ажыццявіў пастаноўку п'есы «Напярэдадні» на беларускім радыё, затым адбыўся спектакль па п'есе «Машэка» ў Брэсцкім абласным драматычным тэатры. Спектакль, які ўзрушыў творчае асяроддзе тагачаснага Берасця, спектакль, які адкрыў новае ў сучаснай драматургіі, у рэжысуры. Будзе пасля і радыёверсія гэтага спектакля, а таксама пастаноўка на беларускім тэлебачанні. Валеры Мазынскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, заснавальнік і мастацкі кіраўнік «Вольнай сцэны» — дзяржаўнага тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі, ажыццявіў у гэтым тэатры пастаноўку п'есы «Ку-ку».

Ад прыроды адораны, М. Арахоўскі шукаў свой шлях у мастацтве, у драматургіі, браў сюжэты з жыцця, знаходзіў арыгінальнае мастацкае вырашэнне, эксперыментаваў, спрабаваў у розных драматургічных жанрах, ствараў для дарослых і дзяцей. Праблемы, выбраныя для асэнсавання, выяўляюцца ў ягоных творах праз псіхалагічна адпаведныя характары-вобразы. Персанажы ягоных твораў цікавыя, запамінальныя, створаны яны з добрым веданнем асяроддзя, людзей, мовы. Часам адзін і той жа выпадак, дзейства аўтар вядзе-паказвае па-іншаму — і зусім па-іншаму тады выяўляюцца характары, а твор набывае новае гучанне. Гэта дазваляюць адкрыць п'есы «Начная госця» і «Злавіць матылька», якія захаваліся толькі ў рукапісах.

Сустрэчы з М. Арахоўскім адбываліся і пасля таго, як ён адышоў у вечнасць. Студэнты, атрымаўшы заданне падчас заняткаў, прывезлі невялікае відэа з роднай хаты М. Арахоўскага. Адзінокі бацька расказваў пра сына і з вялікім болем, з бацькоўскай слязою, і з гонарам за мужнага, таленавітага сына… Праз пэўны час у архіве У. Калесніка — сшытак, спісаны акуратна, — п'еса «Напярэдадні». У архіве Н. Мацяш — яшчэ тры такія ж «агульныя сшыткі»: у адным — гэтак жа акуратна напісаная п'еса «Напярэдадні», а ў другім — «Злавіць матылька». У невялікай папцы — рукапісы артыкулаў, апавяданняў, а таксама лісты ад Тамары Гаробчанкі і Валерыя Анісенкі.

Шмат лістоў ад М. Арахоўскага захавалася ў архіве Валянціны Куксы. Захаваўся яе аўтограф на апублікаваным у газеце «Заря» тэксце апавядання «Шчаслівы дзень»: «Шчыра, з глыбокай павагай, добраму майму сябру, дарадцу і крытыку Мікалаю Арахоўскаму». Напісала так невыпадкова: цаніла М. Арахоўскага як шчырага суразмоўніка, філосафа, які разважаў з ёю на разнастайныя тэмы, якія яна яму і сама давала для роздуму і знаходзіла ў ягоных адказах іншы погляд на праблему, атрымлівала і адказы на свае пытанні, якія яе хвалявалі. Цаніла і яго крытычныя заўвагі на свае мастацкія творы. Лісты Міколы Арахоўскага да Валянціны Куксы паказваюць, як яна «разгаварыла» яго, дазволіла выказацца на важныя тэмы сучаснасці, мастацтва, а таксама паказала, як няпроста было фізічна і маральна «ісці да сябе» такой творчай таленавітай натуры.



Мікола Арахоўскі з сябрамі

Яго творчая спадчына адметная, разнастайная: гэта п'есы розных жанраў, апавяданні і прыпавесці, публіцыстычныя артыкулы, ліставанне з ягонымі духоўнымі сябрамі… Шматгранную творчую асобу — арыгінальнага пісьменніка і мастака Міколы Арахоўскага — дазваляюць раскрыць і фотаматэрыялы, а таксама мастацкія творы, якія прапанаваны ў літаратурна-краязнаўчай гасцёўні «Вытокі Башты» Сялецкай бібліятэкі.

Ён адышоў у вечнасць, у вечны палёт 10 красавіка 1997 года — ды застаўся ў нацыянальнай культуры магутным сокалам, вольным і незалежным, няскораным жыццёвымі нягодамі, у творчым палёце. Невыпадкова ж адзін з персанажаў ягонай п'есы прамаўляе такія словы: «Нездарма чалавек на крыжы так нагадвае птушку…»

Меў свой адметны погляд на свет і людзей, меў свой адметны творчы почырк, выявіў свае шматгранныя здольнасці ў драматургіі, прозе, жывапісе, чаканцы, выпальванні па дрэве, праявіў магутны дух, распавядаючы ў сваіх творах пра набалелыя праблемы ў жыцці чалавека і грамадства. Будучы абмежаваны ў жывых стасунках з людзьмі, з творчымі асобамі, ён здолеў далучыцца да здабыткаў сусветнай літаратуры, імкнуўся асэнсаваць набалелыя праблемы ў беларускім грамадстве, выказаць свой погляд на агульначалавечыя праблемы ў сваіх мастацкіх, публіцыстычных творах, у ліставанні з сябрамі. І сёння, у год свайго 75-годдзя, далучае нас да асэнсавання тых балючых праблемаў, якія былі і застаюцца актуальнымі, бо ў цэнтры нераўнадушных філасофскіх роздумаў Міколы Арахоўскага — чалавек, чалавечыя адносіны, лёс чалавека на сваёй зямлі, лёс прыгожай і непаўторнай сваёй Радзімы ў кантэксце сусветнай культуры, у прасторы Любові, Спагады, Годнасці.

Мікола АРАХОЎСКІ

**Мова**

*…Паспрабавалі сказаць грузіну,*
*Што мова яго — сабачая,*
*І бліснуў грузінскі кінжал,*
*І пралілася кроў святатацніка.*
*Калі беларусу сказалі тое ж,*
*Ён пачырванеў ад сораму…*
*за сваю мову —*
*Мову Скарыны і Купалы,*
*Дзяржаўную мову*
*Вялікага Княства Літоўскага.*
*Замыкаў штосьці,*
*апраўдваючыся…*
*І рэчка Тураса, у назве якой*
*рыкалі туры і зіхацелі росы,*
*Пацякла безыменным*
*меліярацыйным ровам.*
*І зямля агалілася да мёртвага*
*жоўтага пяску.*
*Гуляюць дзеці чалавечымі касцьмі…*
*Не ведаюць, што гэта косці*
*іх продкаў*
*І што самі яны — нашчадкі,*
*Бо і слова такога ў іх няма.*

# Тры пярсцёнкі



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

Калі яна пачала любіць і цаніць рэчы? Невядома. Гэта прыйшло ў сваю пару, як прыходзіць, скажам, палавая спеласць. Але, паколькі пытанне ўзнікла, паспрабуем адсачыць некаторыя этапы жыцця і фарміравання асобы.

Ранняе дзяцінства было сцёрта. Памяць, намагаючыся пранікнуць праз шэрую завесу, натыкалася на пáру нязначных эпізодаў. Усё астатняе як быццам хто закрэмзаў, заштрыхаваў графітавым алоўкам. Так бывае ў дзяцей (яна чытала), якія раслі без бацькоў.

Бацькі насамрэч нікуды не падзеліся, яны існавалі. Жылі і працавалі ў суседнім раёне і, вядома ж, наведвалі сваё першае дзіця, пакінутае ў бабы з дзедам. Але, зноў жа, ніводнага іх прыезду нейронамі не зафіксавана — ні эмацыйных успляскаў, ні постацей, ні падарункаў. Ні цацак, ні лялек, ні кніжак — нічога... Ну не магло так быць! Калі прыязджалі, то нешта ж прывозілі...

Сапраўднае жыццё пачалося тады, калі бацькі ўрэшце пабудаваліся і забралі дачку да сябе. Свет пашырыўся, набыў колеры і адценні. Невыразная плоская карцінка займела аб'ём, а статычны кадр — рух. Запаміналася ўжо ўсё: смак папяроўкі, мышы ў калгаснай пуні, нежывое каццяня на руках... Нават такі забаўны эпізод: да суседкі прыехаў дарослы сын, лётчык, і яна густа прысыпала тварык мамінай пудрай. Спыталіся — з якой нагоды. «Юзік прыехаў», — прызналася дзяўчынка. Прамата і залішняя шчырасць заўжды былі яе асноўным недахопам.

Яна памятае, як збіралася ў першы клас. (Маці, як заўсёды, была на працы.) Думала, як правільна — надзець адны панчошкі ці на іх яшчэ і шкарпэткі? Панчошкі трымаліся дзякуючы шырокім гумкам, якія перацiскалі ногі. Ці не з-за тых варварскіх вясковых гумак яна ўсё жыццё пакутуе на варыкоз?!

З якогась паўднёвага санаторыя бацька аднойчы прывёз шаўковы піянерскі гальштук і салатавыя стужкі. Ні ў кога ў школе не было такога агністага гальштука! Звычайныя, штапельныя, перад ім выглядалі вартымі жалю анучкамі. Капронавыя стужкі, праўда, былі мяккімі, правісалі, але ўсё роўна на «хвосціках» выглядалі святочна. Здаецца, гэта быў першы і апошні бацькаў падарунак.

Яна памятае многія свае юнацкія сукенкі. Цёмна-зялёную, з тафты, якую падпсавала швачка: узяла ды выкаціла проймы... Карычневую, з доўгім рукавом... Сама брала тканіну ў ГУМе; голенькі прылавак, а на ім адзіны бабулін скрутак. Ліловую, атласную, уласнаручна перашыла на дзедавай дарэвалюцыйнай машынцы... У гэтай сукенцы яе, першакурсніцу, угледзеў адзін мінскі скульптар і чыста па-мастацку захапіўся. Толькі ў гэтым колеры хацеў яе звяаць, увасобіць (як быццам ён жывапісец!), але больш яны не перасякаліся і зноў сустрэліся ў яго майстэрні праз гадоў трыццаць.

Яшчэ ў яе была эфектная чорная сукенка з залатой устаўкай спераду і пышнай, ніжэй таліі спадніцай. Худзенькая швачка ў атэлье трымала ў вуснах шпількі, падколваючы ніз. Сукенку яна мо пару разоў надзела, а потым тая за гладыш малака перайшла да суседскай дзяўчынкі.



Фота ideal.com

А дзе ейны выпускны ўбор? Ён паслужыў двойчы: не давялося купляць новае на вяселле. Няпоўныя два гады раздзялялі дзве значныя падзеі. Вэлюм таксама быў арыгінальны: у выглядзе пышнага банта. Ні ў кога такога не бачыла! Як і ўсё астатняе, выпускное-вясельнае некаму спрадавала маці.

Заўважце, яна яшчэ не навучылася берагчы і захоўваць любімыя рэчы, і нават іх кантраляваць. Яна іх толькі запомніла. Як і залаты школьны медаль, што згубіўся пры пераездзе.

У старэйшых класах насіла яна «маленькую», падрэзаную пад грудзьмі светлую сукеначку са штучнай тканіны. Вельмі пасаваў ёй, тоненькай, такі фасон! У той сукенцы паехала яна на першае сваё дарослае мерапрыемства — вяселле ў «Заходнай». Няйначай, маці арганізавала, каб дагадзіць прыяцельцы-бабулі. Бабуля часта бывала ў іх дома і раз-пораз ужывала слова «цёнгле».

Ехаць давялося з незнаёмымі людзьмі ў незнаёмае месца. Пра Заходнюю яна, вядома ж, чула, але не ведала, што былая польская мяжа знаходзілася зусім блізка, за некалькі кіламетраў ад іх вёскі. На ўроках гісторыі пра гэтую акалічнасць не гаварылі. Яна добра вучылася, запомніла б...

Была восень. Магчыма — кастрычнік. Хто там жаніўся, засталося за кадрам. Чужая вёска, чужая моладзь, пераходы па густой гразі з хаты ў хату... Мясцовыя хлопцы адзін перад адным даставалі з кішэняў бялюткія, загадзя падрыхтаваныя насоўкі, каб пакласці іх спадарожніцам пад ногі альбо выцерці туфелькі. Яна аж адхіснулася ад такой гжэчнасці: як, такое бялюткае — у бруд?!

Адзін з хлапцоў пачаў да дзяўчыны чапіцца. Не так мо сама яна яго зацікавіла, як ейны пярсцёнак — круглы, як пячатка, чорны, з натуральнага каменя. Як бы жартам ён расціскаў сілком дзявочыя пальцы, вырэдзіў руку — здзіраў пярсцёнак. Урэшце зняў, забраў. І не вярнуў. Чаму яна не абуралася, не патрабавала свайго?

Так яна страціла першую ўласную рэч. Вярнуўшыся з вясельнага тлуму, даведалася пра смерць дзядулі — таго самага, які з бабуляй яе гадаваў, і беспрытомная з'ехала на падлогу па вушаку.

Другі пярсцёнак — залаты, з доўгенькім далікатным бурштынам — прадала дваюродная сястра. Не ёй, а роднай цётцы, з якой цесна і неяк падазрона сябравала. Сястра толькі што вярнулася з Далёкага Усходу, куды выпраўлялася з сям'ёй на заробкі. Муж там і застаўся, знайшоў другую, затое золата трохі прывезла і збывала сярод сваіх.

На той час наша безыменная гераіня была і замужняй, і дзетнай, жыла асобна ад бацькоў. Пярсцёнак, аддадзены матуляй, ляжаў у шкатулцы з таннай біжутэрыяй. (Ланцужкі, кулончыкі, усемагчымыя вісюлькі заўсёды боўталіся на яе кофтачках і світарках.) А тут раптам надарылася госця, вада на кісялі — жонка мужавага брата другой стрэчы. Брат адбываў тэрмін за кепскія справы, муж знаходзіўся на працы. Ён і запрасіў, перасекшыся, сваячку. Твар В. падаўся праставатым, нават грубаватым. Магчыма, тая нават выпівала, але гаспадыня прыняла яе з адкрытай душой. Па-жаночы паразмаўлялі, паабедалі, паняньчыліся з малой дачушкай. (Другой ужо, большая была ў школе.) І далей, што стала ясна праз многа гадоў, яна павяла сябе па мацярынскім сцэнарыі: ёй захацелася зрабіць нованспечанай радні штосьці прыемнае. Дастала з шафы шкатулку, перабірала драбязу... І выбрала на падарунак пярсцёнак з бурштынам — не, не той, а іншы, у простай, металічнай аправе.

У наступную суботу, без папярэджання і дамовы, зноў з'явілася тая ж жанчына. Ужо і дапамагчы імкнулася: перапаласкала пялюшкі, а гаспадыня панесла іх вывесіць на двор, на прасушку. Госця, як падалося, выглядала напружанай (стрэс выдавалі вочы) і хутка адкланялася.

Ці трэба гаварыць, што залатога пярсцёнка не стала? Яна расхвалявалася і адправіла мужа з візітам, каб запатрабаваў і вярнуў дарагую рэч. Муж нехаця паехаў, па-сваяцку там выпіў і вярнуўся ні з чым. Так праявілася яго фамільная мадэль паводзінаў: ва ўсіх сур'ёзных, важных момантах збягаць у кусты.

Шмат разоў па жыцці яна спрабавала дабіцца ад мужа рашучасці альбо прынцыповасці — з тым самым нулявым вынікам, а бывала, што і з рваннём нерваў, марнай сваркай, разладам... Змірыцца з непрымальнай мадэллю паводзінаў — не адпаведнай яе ўяўленням пра «мужчынскае плячо» — было немагчыма, як і змяніць гэтую мадэль.

Мала таго: пры ўзнікненні вострай супярэчнасці ў жонкі з кім-небудзь ён маўклівa і непахісна станавіўся на іншы бок. Пры гэтым напоўніцу карыстаўся ўсімі дабротамі сям'і і шлюбу, усё менш беручы на сябе адказнасць хоць за што.

Такім чынам, першы пярсцёнак у яе адабралі, другі — подла выкралі з дому, а трэці сам па сабе злузаўся з пальца, як быццам не хацеў на ім быць. Абручык быў залатым, але не шлюбным.

Так атрымалася, што жаніліся яны без абмену пярсцёнкамі. Свякроў не парупілася, маці не азадачылася, жаніх змоўчаў, а яна — хіба магла яна памятаць пра такую дробязь? Галоўнае, што ён побач, яны разам назаўсёды, арганізацыяй вяселлля займаліся бацькі, дык і адказнасць на іх.

Тонкі абручык муж набыў самастойна і перадаў «першародцы» ў радзільны дом. Нехта ж сказаў пра такую традыцыю: упрыгожаннямі выказваць сваю ўдзячнасць, сваё прызнанне. Яго і насіла ў якасці шлюбнага на правай руцэ.

У кабінеце, дзе яна працавала, знаходзіліся трое: яна — у росквіце жаноцкасці, перадпенсійнага ўзросту спакойны мужык і новая супрацоўніца, дзеўка гадоў пад трыццаць. Раззнаёміцца яны не паспелі, ды і не мела гэта ніякага значэння для развіцця будучых падзей. К тым гадам у жанчыны ўжо праявіўся сверб да ўсемагчымай грамадскай працы, якую ніхто іншы не тое што рабіць не будзе — проста не здагадаецца зрабіць.

Уздумала яна памыць плафоны люстры, якая сто гадоў вісела некранутай і яшчэ б столькі сама правісела над іх галовамі. Хтосьці плафоны па яе просьбе зняў, яна набрала вады ў пластмасавую карзінку для смецця і даручыла частку працы маладзейшай. Ажно глядзіць — неяк у той рукі не так служаць, быццам упершыню ім даводзіцца займацца такой цяжкай справай, як мыццё шкла.

Плафоны былі рашуча адабраны і вымыты. Праўда, штосьці дзынкнула падчас працэсу. Брудную ваду яна выліла ў туалеце. Так падарунак любага і дарагога быў уласнаручна змыты ў каналізацыю.

Знакаў тады яна яшчэ не разумела, значэння страце не надала. Толькі прыкрасць адчула ды злосць — на сябе саму і на каляжанку-няўмеку. А ўжо ж такі быў выразны, такі красамоўны сігнал! Хіба што сляпы не заўважыць.

Невідушчасць да відавочнага дапамагала часта. Перш за ўсё — не дзейнічаць, нічога не рабіць для змены сітуацыі. Бо дзейнічаць боязна, небяспечна. Дзеянне патрабуе выдатку сіл і нерваў. Ці не былі яны з мужам падобнымі гэтым, як дзве кроплі вады?

Прытоеная, неўсвядомленая варажнеча, як іржа, раз'ядала іх саюз, пакуль яе вочы ўрэшце не адкрыліся. Тады стала ясна: яна жыве на папялішчы ўласных ілюзій, да таго ж з чалавекам, які ёй банальна карыстаецца. Дзейнічаць-такі давялося. Ды калі яна ўрэшце падала на развод, ён адчайна супраціўляўся: паўгода зацягваў справу, пакуль суду не надакучыла імі займацца.

Тры ўпрыгожанні, ніяк паміж сабой не звязаныя, згадаліся і выстраіліся ў адзін лагічны ланцуг. Тры пярсцёнкі — як тры дыягназы. Першы — сведчанне нязdольнасці абараняцца і асаджваць нахабаў. Другі — прыкмета залішняй даверлівасці і няўмення разбірацца ў людзях. Трэці... Ох, з трэцім складаней... Ды Бог з ім, яна даўно адпусціла і гэта, і папярэднія, і многае іншае. Не адпускаецца толькі тое, што не дадалі.

...Не спалася, думкі снавалі-бегалі. Яна паднялася, каб запісаць «плынь свядомасці», паглядзела на гадзіннік — тры гадзіны ночы. Нічога сабе! Во папёрла!.. За шклом секцыі цьмяна паблісквалі крышталёвыя чарачкі і вазы, шкляныя фігуркі, керамічныя сувеніры, бурштынавыя бранзалеты, пацеркі з рачных пярлін, ракавінкі, яшчэ нейкая мілая дробязь. На сцяне віселі малюнкі ў рамках. А на камодзе ў радок сядзелі падараваны ўнучкай заяц і знойдзеная на вуліцы разяватая малпачка.

# З нізкі «Стрэмкі часу»



Васіль ЗУЁНАК

*Гэтыя чатырохрадкоўі, што былі між іншых вершаў, неяк згуртаваліся ў сваю асобную нізку. Можа яны і правільна зрабілі?.. Я не пярэчыў: як зярняты ў сяўні, без «аранжыроўкі», — сыпануў жменяй — і бывайце!..*

*Аўтар*

**Над свежай магілай…**

*Над свежай магілай з адвечнай загадкай,*
*Зямныя прышэльцы, стаім:*
*«А можа, сусвет наш —*
*пачатак пачаткаў,*
*І што там — хто скажа — за ім?..»*

**«На перацяжку»…**

*У паэтычным тумане*
*Не разабрацца без пляшкі:*
*Геній ці з графаманіяй*
*Спрэчка «на перацяжку»?..*

**Маршрутам…**

*Маршрутам да славы вечнай*
*Шыбуе натоўп малады,*
*А я ўжо — рухам сустрэчным*
*Іду. Хоць і знаю — куды…*

**На схіле…**

*Як дзён сувой ні разгортваю,*
*Дзе сховы трымаюць зару, —*
*А ўсё ўспамінаю мёртвых*
*І з мёртвымі гавару…*

**І нараджаюся…**

*Запомніце: я — самазабойца найпершы.*
*Ды тут жа ў жывыя павінен вярнуцца*
*крадком:*
*Адлятаю ў сусвет, паміраючы з кожным*
*вершам,*
*І нараджаюся з кожным новым радком.*

**Толькі…**

*Што з нябёс на зямлю прынясём?*
*І наогул, ці варта вяртацца?*
*Пэўна, зоркі раскажуць усё, —*
*Толькі як у іх запытацца?..*

**Спосаб**

*Хуткія зборы ў нябесны той свет:*
*Ані кароўкі, ані вяроўкі.*
*Жыццём зарабіў на транзітны білет,*
*А смерць — толькі спосаб*
*транспарціроўкі.*

**Цэйтнот**

*Яшчэ неспазнаны заве далягляд,*
*Ды збэйсаў гады, як хвіліны.*
*А дні засталіся — ды й тых не зашмат! —*
*На развітанні-ўспаміны…*

**Схавацца…**

*І падказала, спаліўшы масты,*
*Апошняе пабрацімства:*
*Схавацца ў космас, як у кусты*
*Пакрыўджанага дзяцінства…*



Фота redbook.com

**Той гнеў…**

*Сам Бог не знае, дзе ўскіпеў*
*Той гнеў, — з якіх ён светаў…*
*…Я ўсё, я ўсё перацярпеў,*
*Перацярплю і гэта…*

**Перад цудам…**

*Быў — і больш не буду?*
*Як змірыцца з гэтым?..*
*Ці паверыць цуду*
*З паралельным светам?..*

**Каб прачытаць…**

*Якую прышласць дні нясуць,*
*Адным начам толькі й знаць, —*
*Надзець акуляры і заснуць,*
*Каб той вердыкт прачытаць.*

**Без мяне…**

*І развесніцца рунь маладая,*
*Песняй новаю загучыць,*
*А мая вясна прамаўчыць,*
*І ніхто пра яе не згадае…*

**Ці скажа…**

*Ды й сам Бог ці скажа пра гэта*
*І ці знае: адкуль ён узрос,*
*Калі не было і Сусвету*
*І ці быў дасусветны хаос?..*

**Шкадуе…**

*У спрэчках словы змагліся*
*За шлях, па якім не прайду я,*
*А хтосьці ў нязведаных высях*
*Па-брацку мяне шкадуе…*

**Напавер**

*А жыццё напавер*
*Да труны гарбаціцца:*
*Пасля скораму ў чацвер —*
*Посная пятніца…*

**Калі апынешся…**

*Калі апынешся ў свеце нязнаным,*
*Дзе ні кала ў цябе, ні двара,*
*Згадай квантэм, што прыдумаў Разанаў*
*І слыве ў ім за гаспадара!..*

**Два светы…**

*Два светы для адной душы*
*Ўсявышні даў смяротным:*
*Жыццё і смерць, — як спарышы*
*Ў палёце незваротным…*

**На развітанне…**

*Няма ні ў Біблії, ні ў Каране —*
*А мне адкрыўся апошні прасцяг:*
*Сказала душа мне на развітанне:*
*— Не бойся смерці, бойся жыцця…*

**Узбраенне…**

*Філалагічны аўтамат:*
*На кожнае паўслова — мат.*

**Аб тэрмінах**

*П'е народ цыстэрнамі*
*І вітае песенна*
*Прадаўжэнне тэрмінаў*
*Выхаду на пенсію!..*

**Прабач…**

*Прабач двух сусветаў збліжэнне.*
*Я знаю, ды ў жарсці таю, —*
*Прабач: даючы нараджэнне,*
*І смерць я табе даю…*

**Востраў**

*Ад вас, дэбаты з грызнёю вострай*
*І пасядзелак бяздумны шал, —*
*Я ратавацца збягаю на востраў,*
*І гэты востраў — мая душа.*

**Што каму…**

*Вашай бы хеўры —*
*Даляры ды еўры.*
*А нам бы? А нам бы —*
*Харэі ды ямбы!..*

**Бо…**

*Не будзе нас… І памяці не будзе?..*
*Ды як жа так, каб я цябе забыў!…*
*І ты мяне, напэўна, не забудзеш,*
*Бо не сабою — я табою быў.*

**Сусветы**

*Праз тлумныя зімы і леты,*
*Дзе кожны дзень, як абрыў,*
*Імкнешся спасцігнуць сусветы,*
*А сам сябе не адкрыў…*

**Паралелі**

*Гэта свет перасечаных паралеляў:*
*Дзе спатканні былі,*
*там слупы крыжавыя,*
*На дзвярах недаверу замкі азвярэлі,*
*Ад жывых у магілу ўцякаюць жывыя…*

**Ратуюся…**

*Маўчыць непрыступны Парнас,*
*А творцы з уласных «парнасікаў» —*
*Хто свой! — прапануюць абраз…*

*Ратуюся лесам і класікай.*

**Чакае…**

*Нудзее народ, як нудзеў,*
*І ўсё адказу чакае:*
*Ці той дарогай ідзе,*
*Ці тую праўду шукае?..*

**Ці…**

*Ці Венера мерыцца ў бабусі,*
*Ці Амур згубіў мужчынскі лад,*
*Ці зляніўся ў Беларусі бусел:*
*Менш і менш прыносіць немаўлят…*

**Калі ж?..**

*Калі ж народ спытаецца нарэшце:*
*Ці й на той свет з уладаю збярэшся? —*
*Адкуль яно — да ўсіх чарцей — прашэнне,*
*А Беларусь на разрахунак у кішэні…*

**Выпадак**

*Жыццё: за выпадкам выпадак,—*
*Выпадак планіда сама.*
*Яна ж і ўсталюе парадак:*
*У смерці выпадкаў няма.*

**Выбар**

*Прапануе анкета*
*Ў паэтычнай чакальні:*
*Быць сапраўдным паэтам*
*Ці слыць геніяльным…*

**Фрагмент дыялогу з Максімам**

*…І жыцця ўжо апошнія гоні,*
*А Радзіма ў сэрцы баліць,*
*І сыноўніх дум у Пагоні —*
*Не спыніць, не спыніць, не спыніць!..*

**Дзве непамыснасці…**

*Абразаць камунізму пэйсы,*
*Як шукаць у бяссэнсіцы сэнсы.*

*Бюракрата ад крэсла адпрэчыць,*
*Як шлагбаўму ілбом запярэчыць.*

**Гаварыла душа…**

*Не тоячы хітрых сакрэтаў, —*
*Словам простым, святым*
*Гаварыла душа са светам —*
*І гэтым, і тым…*

**Параднёнасць**

*Як быць кроне ў красе адмысловай,*
*Знаюць ісціну карані.*
*Парадні мяне, Божа, са словам,*
*Ад шматслоўя абарані.*

**Узрост**

*Ці з удачай, ці з бедамі —*
*Кожны міг у цане, —*
*Засынаеш — не ведаеш:*
*Заўтра будзе ці не…*

*2000—2025 гг.*

***З чэрвеня Васіль Васільевіч ЗУЁНАК адзначыў (паводле пашпартнага запісу) свой 90-гадовы юбілей.***

***Шчыра віншуем і жадаем яму душэўнай бадзёрасці і найдаўжэйшага жыццёвага лета!***

# Два апавяданні



Ігар СІДАРУК



Фота obozrevatel.com

## Голка

— Тваю ж маць! — вылаяўся Кастусь Ведрыш, калі, падшываючы штонікі малодшага, Мірыка, з чарговым праколам зламаў голку. — Усё, блін, апошняя...

Трэ было штосьці рабіць. Штонікі ў Мірыка былі аднюткія. Урэшце, як і ў старэйшай Настусі — сукенка. Яна на дзяўчынцы таксама была шытая-перашытая, але трымалася. А вось штонікі на Мірыку — ніяк.

Учора яны зноў паехалі па шве, і, калі так пакінуць, — малы будзе хадзіць з голай дупкай. Пра бялізну яны забылі яшчэ тады, калі адгрымела чарговае армагедонства і ўсё зноў стала цяжэй за золата. Соль, мыла, запалкі, лекі, тканіна, лялькі для дзяцей і брытвы для дарослых. Не гаворачы пра голкі. Хто меў іх запас, быў багацей за Крэза. А ў кагосьці не было ніводнай...

Такім небаракам даводзілася або хадзіць рэшт у рыззі, або ісці ў пазычкі да тых, хто быў з голкамі. І плаціць. Дорага. Грашыма — яшчэ ладна... іншым разам аддавалі апошняе. Місу, з якой елі ўсёй сям'ёй (калі, вядома, было што ядомае...), свечку, папругу, яшчэ добрую батарэйку ад ліхтарыка. Жанчыны — тыя маглі прапанаваць сябе. Як і мужчыны. Уладальнікі голак, хоць і мелі ад таго бакшышу добры прырост, давалі неахвотна. Пакольку здаралася, што голкі ламаліся. (Як толькі што зламалася ў Кастуся Ведрыша.) І хоць у такім выпадку пазычальнік меў страшэнныя штрафныя санкцыі — самую ж голку не вернеш. А значыць, усе запасы багацця раставалі на «га!».

Кастусь узняўся з падлогі зямлянкі, змрочна агледзеўся. Нібы хацеў у сырым, прапахлым тленам і экскрэментамі буданчыку знайсці замену швейнаму прыстасаванню. Ці ўбачыць раптам новыя штанёхі для Мірыка. Ні новых штаноў, ні чым можна было падрабіць старыя, аднак, не пабачыў. Дзеці, якія даўно развучыліся гаварыць, дакладней, гаварыць проста так, без дай прычыны, як шчабечуць у шчаслівыя часіны свайго жыцця дзеці, туліліся на ложку — на паленцах, засланых аблезлым покрывам.

— Татка, што там? — спытала Настуся, хоць вялізныя вачаняткі даўно ўгледзелі, што там.

— Ай, фігова, — унураны Кастусь стаяў да іх спінай. — Голка зламалася. А ў Мірыка — штаны... Палезлі. Зусім гаўно.

Двухгадовы Мірык, пачуўшы сваё імя, узняўся на паляняках, павярнуўся, паглядзеў на тату. А потым, зразумеўшы, што ежы аніякай не будзе, зноў паваліўся на бок ды стаў смактаць пальчык.

— А калі да дзядзі Андрэя схадзіць? Можа, дасць?.. — прашаптала Наста.

— Дасць, дасць! — злаваўся на свет, на дзяцей і на бога Кастусь. — А што я дам? Няма ж, блін, нічога!

— Ну, папрасі! Пазыч... Потым прыдумаем што. Хочаш, я схаджу папрашу?

— Не трэба. Сядзі ўжо. Сходзіць яна...

— А што, і папрашу! — Наста насупілся. — Калі сам не можаш... Я маленькая, мяне паслухае. І, можа, зраблю яму там...

Кастусь павярнуўся, тузануўся да Насты:

— Што ты збіраешся яму рабіць?! Яшчэ толкам сраку сабе падцерці не можаш, а ўжо — зрабіць! — Ведрыш штурхануў Насту, яна павалілася побач з Мірыкам. — Сядзіце тут! І каб ціха!

І Кастусь, схапіўшы нейкае падабенства рэспіратара, памкнуўся з зямлянкі вонкі.

Андрэй Чвэрба жыў ад зямлянкі Ведрышаў недалёка. Крокаў дзвесце хады. Таксама без жонкі. Памерла яна нядаўна: страшэнныя, атрутныя апёкі даканалі яе. У Чвэрбы засталася малая, на год старэйшая за Насту. Дзяўчынкі былі нават нечым падобныя. І ў той, і ў той — русявыя рэдкія кудзерыкі, тонкія пальчыкі, выпіраючыя бугаркамі скулкі. Толькі ў Гэлькі (так звалі дзяўчынку Чвэрбы) — не было аднаго вока.

І хоць аднаногія, аднарукія, бязвухія, спляжаныя ды скручаныя па-рознаму людзі даўно сталі звычайным малюнкам дня, усё роўна: Кастусь Ведрыш так і не прывык бачыць пакалечаных дзяцей.

Таму ён паглядзеў неяк убок, калі важкі лаз у «бліндаж» адсунула аднавокая Гэля, ды спытаў:

— Бацька тут?

— Ага, тут. Татачка! — танклява пазвала Гэлька ў цемру. — Выйдзі. Тут прыйшлі...

— Чаго табе? — не вітаючыся, паглядзеў Чвэрба з-пад ілба на візітанта.

— Здароў, Андрэй. — Ведрышу хацелася праваліцца скрозь зямлю. Не прыдумаўшы нічога лепшага, пачаў пальцамі церабіць край кашулі.

— Ну?..

— Я... Разумееш, такая справа. Я тут Мірыку штаны... рамантаваў. Зусім знасіліся. А штонікі апошнія. Болей няма. Ну і... голка ў мяне... зламалася.

— Ну?.. — паўтарыў Чвэрба, нібы не разумеючы, да чаго ідзе. Было бачна, што ён наталіўся працэсам.

— Так пазыч, калі ласка, — зіркануў Кастусь. — Няма болей. — Падумаў: «Не галадуеш ты, аднак. Вунь храпка, бы ў коніка», а ўслых сказаў: — Я вярну. Хутка. Дашыю і адразу прынясу. Праўда, няма чым цяпер... То пацярпі, калі можаш. Я тут на паляванне... днямі. Усё, што падстрэлю, твая палова.

— Кхм!.. — кашлянуў Чвэрба. — Паляванне, кажаш. І палова. А як не ўловіш?

— Улаўлю, Андрэйка. Як так не ўлаўлю?! — пераконваў болей самога сябе, чым субяседніка, які так і стаяў на парозе ў накінутым на голы торс шынялі, Кастусь. — Яшчэ не было такога, каб з пустымі. Заўсёды нешта... А як жа. Дзеці... Ім жа есці... Улаўлю, улаўлю, не сумнявайся!

Андрэй Чвэрба, які да гэтага няўдала хаваў агіду да просьбіта, маўчаў. Кастусь сцяўся, напружыўся, чакаў адказу.

— Ладна, Канстанцый. Будзе табе голка. На гадзіну дам. І нясі адразу назад! А палявання твайго — не палова, а тры чвэрці. Сабе яшчэ наловіш... Пацукоў чорнахвостых! — рагатнуў, а болей ашчэрыўся.

— Ой, дзякуй табе, Андрэйка! Прынясу, прынясу, ото зараз і прынясу!

Кастусь гатовы быў плюнуць сабе ў вочы: за прыніжэнне, жаласныя просьбы, драбноцтва.

— Чакай, — спыніў ягоныя сабачыя дзякі Андрэй. — І глядзі... Калі зломіш — пашкадуеш той дзень, калі надумаў прыйсці сюды. Я не жартую, — бялкі вачадолаў Чвэрбы закрываваліся. — Ясна?

— Ясна, — візітант наўскос сустрэўся з паглядам Чвэрбы. Яму было радасна ад таго, што ўгаварыў гаспадара, і жудасна ад ягоных змрочных словаў. Затое будзьме мець аж на цэлую гадзіну голку. Спраўдную, войструю, сталёвую голку.

Чвэрба павярнуўся ў бліндажную цемру.

— Малая, прынясі голку! Тую, што ў трусіную лапку ўткнутая.

У глыбіні пачулася корпанне, і аднавокая Гэлька выйшла да мужчынаў. У руках яна трымала вялікую голку. Трымала асцярожна, каб не выпусціць ці не зрабіць што. Андрэй варухнуў брывом, паказваючы, каб дала голку госцю. Тая так і зрабіла.

— Дзякуй, Андрэй, дзякуй! Я хутка, я зараз! — Ведрыш ухапіўся за голку («бы галадаморны сабака за костку» — можна было б напісаць, ды падобны склад яўна патыхне дрэнным густам).

— Давай, майструй... свае штануленцы. І чакаю!.. Тры чвэрці.

Андрэй прыцягнуў Гэльку да сябе, паклаў на худзенькі плячук руку ды свідраваў паглядам Ведрыша, які мкнуўся як мага хутчэй пакінуць гэтае змрочнае жытло.

— Ага, ага!.. Усё, як вырашылі. Чакай! — ужо на хаду нацягваў на пераноссе шматкі свайго рэспіратара Кастусь, міжволі думаючы, што тут дыхалася зусім не лягчэй, чым на вуліцы.

З Мірыкавымі штонікамі ён справіўся хутка. Праўда, замест ніткі была тонкая рыбалоўная лёска, якая невядома адкуль узялася. Але гэта было яшчэ й лепш. Лёска — болей трывалася, швы даўжэй трымацца будуць.

— Ну вось, Мірзаед! Трымай свае штануленцы! — задаволена крутануў у паветры Кастусь штонікі Мірыка. — І глядзі, каб болей не рваў! А то... хвост табе адараву! Разам з носам!..

Мірык паглядзеў на бацьку. Зразумеўшы, што той жартуе, ледзь усміхнуўся. Потым узяў штаны ды пасунуў ножкі ў калашвіны.

— Дай дапамагу, — падсунулася Наста, але малы адвярнуўся, каб, значыць, сам.

Кастусь, з усмешкаю назіраючы за дзецьмі, раптам пабачыў пад мышкай дачкі даволі вялікую дзюрку ў сукенцы. «Во, блін! А яна як паспела? Можа, толькі што? А калі раней — дык чаго не гаварыла?» Але, зразумеўшы, што малая, можа, і хацела сказаць, ды, ведаючы, што бацька зламаў сваю апошнюю голку, змаўчала, адагнаў падобныя думкі прэч.

— Настуська, а здымі-ка сукеначку сваю. Пакуль ёсць у нас голачка — давай і цябе... падшыю.

— Ну, давай... — пагадзілася Наста ды сцягнула цераз шыю сукенку.

Задаволены тым, што ўсё добра складваецца, Кастусь паддзеў голачкай Наставу апранашку.

— Та-ат... Гама. Хасу... — раптам раскрыў рот Мірык, паказваючы пальчыкам. Кастусь, успомніўшы, што тры чэрці з улову ад палявання пойдзе Чвэрбу за пазычку, сціснуў голку, і... яна — зламалася.

А з голкай — пераламаўся і свет Кастуся Ведрыша.

Словы Андрэя Чвэрбы былі жорсткія, бы джала чмяля, і халодныя, бы лёзы сячкарні на марозе:

— Так, Канстанцый, слухай сюды. За голку я табе магу пераламаць рукі ці шыю. І нічога мне за гэта не будзе. Не той час... І хрэн хто ўведае. Ды я добры, жыві. Але... — Чвэрба наблізіў твар да Ведрыша, дыхнуўшы на яго часнаком і півам: — Вазьму вока. Не тваё. Вока дарослага тут не дапамога. Каго з малых тваіх — тут ужо сам выбірай. Трэба ж табе неяк аддзячыць за голачку. Вось Гэльцы маёй і будзе... абноўка. Знаю ўрача аднаго... Зробіць.

— Якое вока? Ты што?! — Кастусь не даваў веры вушам. — Я табе што хочаш... Я табе хоць усе паляванні...

— У сраку ўсунь свае паляванні! — раптам збарвіўся Чвэрба. — Як голку ўсунуў! Я табе сказаў што?! А будзеш тут выпендры пендрыць — уманточу паміж вачэй. Ото гэтым!.. — І Андрэй адарваў ад стала важкую сякеру, якой да прыходу Ведрыша раздзелваў ладны кавал мяса. — Так што выбар ясны. Або сякерай табе ў лабешню, або нясі вока... У тваіх малых, калі ўсе іх складсці, — дык і замнога. Ажно чатыры. Ну цяпер будзе тры. Таксама камплект, ага! — рагатнуў, а болей адрыгнуў Чвэрба.

— Ты разумееш, што ты гаворыш, Андрэй?! — Кастусю здавалася, што ўсё гэта адбываецца не з ім, не тут, не ў гэтую эпоху. Што няма ніякіх зямлянак і бліндажоў, што не было аніякіх армагедонстваў, што іхнія дзеці, усмешлівыя і шчаслівыя, носяцца па травяністых поплавах пад сінім небам, з частачкамі цукровых, сакавітых кавуноў, і кавуновыя кроплі ляцяць на твары, на кашулі, на праляталючыя міма белыя аблачыны... — Ну што, што ты такое гаворыш, га?!.

— Я дзела, дзела гавару, таварыш херовы паляўнічы!.. — сціскаў сякерку гаспадар. — Нясі, што сказаў!.. Або... — ён абвёў лязом сякеры паветра павол сябе. — Але першы варыянт — выгаднейшы. І сам капціць неба па-ранейшаму будзеш, і маляцтва тваё — не засірацее заўчасна.

Кастусь маўчаў. У жаху, разгубленасці, бяссіллі.

— Усё, пайшоў! — штурхануў яго Чвэрба. — І каб доўга не думаў, заўтра паабедзе каб быў тут. Спадзяюся, не пусты... млядзь! — працэдзіў мацюк Андрэй, бы жаваў нясмачную, прагорклую воблу.

Што было далей? А што было далей... Кастусь Ведрыш вярнуўся дахаты. Правёў ён жахлівую, зморную ноч, варочаючыся на рыззі ў куце сваім, раз-пораз ускокваючы ды кусаючы кулакі да чорных крывавістых сінякоў. Апушчу думкі ягоныя, у якіх выбіраў пакутна: аддаць Чвэрбу самога сябе, хай ужо забівае на смерць — але што тады з малымі гэтымі, га?.. Ці ўсё-такі вока дзіцёнка? І калі вока — дык чыё? Мірыка? Гэта з-за ягоных штаноў усё гэтак выйшла: і голка зламалася, і ў пазычкі да Чвэрбы пайшоў. Ці Насты? Каб не яна, каб не сукенка ейная — то цэлай бы засталася Андрэева войстрая маёмасць, не здарылася б падобнага гадства.

І Кастусь выбіраў, Кастусь прыкідваў. Па-ранейшаму хапаў ротам абкусаныя кулакі ды нешта вымольваў у здушнага паветра імкліва пралятаючай ночы.

А паабедзе наступнага дня...

Ён прыцёгся да Чвэрбы і паставіў на стольчык шкляны паўлітровы слоічак — той самы, які даў яму напярэдадні гаспадар. З адмысловым растворам, які не даваў пашкоджаным тканкам адмерці на працягу нейкага часу. Вочка Настусі плавала ў растворы. Вочка, болей падобнае на бялок невялічкага птушынага яйка, чым на сапраўднае чалавечае вока.

— Ну ты даў! — цмокнуў Андрэй, узымаючы слоічак над галавой, у цьмяным святле бліндажнага люку. — Ото, Канстанцый, ты й разлічыўся! А я думаў, кіла ў цябе тонкая! А так — малаточна!!

Чвэрба акуратна паставіў слоічак на палічку з фатаграфіяй былой жонкі.

— Усё, спісана. Можаш валіць.

Чорны, як хмарнае неба, Ведрыш маўчаў. Ён глядзеў і глядзеў на густую шчэць таго, хто стаяў насупраць. «Цікава, калі б яна зараз гарэла, ці так бы ты верашчаў, як...»

— Ну што ўтаропіўся? Я сказаў: дыбай адсюль! Ага, і можаш, як што, за голачкамі прыходзіць.

Кастусь Ведрыш яшчэ пастаяў. Потым выйшаў і, хістаючыся, падаўся да пагорка.

Да таго месца, дзе ў ціхія дні, калі вецер не дзьмуў з боку гарадскіх руінаў, даносячы ёдкія, атрутныя пахі разбуранай цывілізацыі, ён смажыў упаляваную дзічыну. Для сябе і сваіх дзетак.

У небе прыпякала і, здавалася, вечна будзе паліць бязлітасцівае сонца.

У шырачэзна расплюшчаныя Кастусёвыя вочы.

На тым месцы, дзе ў ціхія дні...

*2017—2024 гг.*

Заканчэнне на стар. 7 »

# Два апавяданні

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

## Тут жыве Хэмінгуэй

Сёння я нарадзіўся. Не дакладна вось цяпер. Выскачыў з чэрава маці. Не. Сёння мой дзень нараджэння. Дваццаць і тры гадочкі. Аднак... Так што — святкуем. І сёння — будзе ўсё.

Вясёлая кодла гасцей. Мора джыну-шнапсу-дрынку. І — яна. Тая, што застаецца. Да самай раніцы. Тая, што будзе лашчыць. Безупынна. Бясконца. Нават тыя часткі цела, да якіх дацягнуцца — немагчыма. Тая, што не дазволіць. Памерці заўчасна.

Я выціраю рэшткі галення. Чуецца званок. Цікава, хто першы? Мо байкер Ваўлан. Ягоная лапатападобная барадзішча. Ці Юрка-музы́ка. У вечна-блакітным джынсе. Ці тая, што будзе лашчыць, — іх апярэдзіла?..

Я адчыняю. На парозе не байкер. І не музы́ка. І не яна. Двое маўклівых. Строгая вопратка, барвовыя пільчакі.

— Эрнэст? — кажа першы, ніжэйшы. Ён жуе жуйку.

— Прабачце?

— Можна? — гэта другі, вышэйшы. Ён крывіць вокам.

Без запрашэння заходзяць. Вышэйшы запальвае цыгарэту.

— Тут жыве Хэмінгуэй?

— Які Хэмінгуэй? Памылачка!

— Я табе дам памылачка! — першы нечакана шарахае мне пад дых. Столя і люстра плывуць. У вачах — горача. — Эрнэст Мілер Хэмінгуэй, нарадзіўся дваццаць першага чэрвеня ў тысяча васямсот дзевяноста дзявятым годзе, мястэчка Ок-Парк, штат Ілінойс, Злучаныя Штаты Амерыкі, — у словах першага адсутнічае запытальная інтанацыя. — Ну што, працягваць далей біяграфію?

Я спрабую ўцягнуць паветра.

— Хлопцы. Таварышы... Ці хто вы там... Мне дваццаць тры! Сёння. А не ў тысяча васямсот дзевяноста дзявятым...

— Верна! — другі накіроўвае цыгарэту мне ў вока. — Сёння і ёсць дваццаць першага чэрвеня.

— Яшчэ раз! — крычу. — Памылка! Я не Эрнэст! І не Хэмінгуэй! Я просты...

Шчаку працінае пякельны жах. Другі такі знайшоў прымяненне цыгарэтнаму недапалку.

— Яшчэ раз, — паўтарае першы. Ён ледзь не каўтае сваю жуйку. Мой кадык гатовы ўчавіцца да самага пазваночніка. Пальцы першага і не думаюць расціскацца. — Тут жыве Хэмінгуэй? Эрнэст, які напісаў «Свята, якое заўсёды з табой»!

— Я... Хр... Адпус... Вы памы... — ані слова вымавіць немагчыма.

— Што ж, — другі запальвае новую цыгарэту. — Адказ памылковы. Яшчэ адзін шанец. Даем. Табе, Эрнэст Мілер Хэмінгуэй.

— Я не Хэмінгуэй!

— Кончаны прытырак, — першы заходзіць за спіну. Я ўжо ачомаўся ад удару пад дых. Таму спрабую абараняцца. Хапаю першае, што трапляе. Кубак са стала. Дарэмна. Другі той жа цыгарэцінай чыркае мне па локвіцы. Сволач. Кубак падае. Першы накідвае мне руку на шыю. З усяе сілы сціскае. Пальцамі другой рукі цісне на вочы. Дробна-зорнае неба раскрываецца ўшыркі. Да ўсяго — скура шчакі адчувае пякельны жар цыгарэты. Якая ўсё наближаецца. — Пытанне ранейшае. Тут жыве Хэмінгуэй?

— Пусціце! Сабакі е*анутыя! — ці можна крычаць у маім становішчы? Аказваецца, можна. І не толькім крычаць. Б'ю нагою таго, хто трымае. Нага саслізгае, удар нікчэмны. Чаго не скажаш пра хук другога. Зноў дых выходзіць з маіх лёгкіх разам з душой.


Фота Shutterstock

— Хм!.. Е*анутыя сабакі? Будзем лічыць, не чулі. — другі ашчэрваецца. Брыдка. Няхораша. Ягонае касое вока лезе на скулу. — А вось што ты — Эрнэст...

— Яшчэ раз! Я — не Эрнэст!

— Што ж. Можа, і праўда. Апошняе тваё!.. — першы рэзка б'е па шыі рэбрам далоні, кідае мяне ў крэсла. Адкуль у ягоных руках — дрот, я не паспяваю зразумець. — Калега, даставай. — Дрот жорстка ўпіваецца ў тулава. Не паварушыцца.

Другі дастае з кішэні барвовага пільчаку сурвэтку, раскладвае на стале. Потым, ужо з унутраных кішэняў, маленькія і бліскучыя нажоўку, шпрыц, ампулы, нож, набор скальпеляў, зубатую сякерку, крывыя дужкі, мэталёвыя заціскі, вату, доўгія шылы, свідравальную машынку. Нейкія прыстасаванні, назваў якіх я не ведаю. І гэта ўсё — месціцца ў кішэнях? Аднак...

— Аднак, пачнем! — першы зашморгвае мне на вачах барвовую стужку. — Калі меней бачыш — адчуваеш больш. Хо! Падыход першы — «Распаласоўка».

У пакоі нешта ціха гудзе. Скрозь цёмную стужку бачна, як электрычнасць дрыжыць, з'язджае ўбок. Яшчэ імгненне — і ў едкі, разрыўны боль правальваюся, з'язджаю я сам.

«І ўсё ж, — пульсуе недабітым пацуком думка, — я не здамся. Я не выдам цябе, Эрнэст!»

І я не выдаю. Ні ў падыход першы — «Распаласоўку».

Ні ў падыход другі — «Раскадроўку ўздоўж».

Ні ў падыход трэці — «Скуру-камуфляж».

...............................

Але тут яны сцягваюць з мяне нагавіцы.

...............................

Я расплюшчваю заплытае вока. Наколькі магчыма. Магчыма — на мікрон. Мо крыху болей. І тое, што я бачу ніжэй пояса... Што там зроблена. Што засталося ад...

— Ах вы сволачы. Сволачы. Сволачы...

Мае слёзы, сліна і кроў перамешваюцца, цякуць па падбароддзі. Тузаюся. Дрот упячатаны ў скуру мёртва.

— Думаеш? — гэта першы. Кідае ў рот новую жуйку. — Мы — нармальныя людзі.

— Сволачы яшчэ не пачыналі, — гэта другі. — Што ж... Хіба зараз.

Касавокі ўключае электрычную нажовачку, набліжаецца.

Раптам чуецца крык. Дзікунскі, раздзіральны. Гэта крычу я. Дакладней, мой рот. Бо я сам — ужо не магу нават дыхаць.

— Так, гэта я! Я! Я — Хэмінгуэй!

— Вось як? — першы зазірае мне ў твар. — А дакладней?

— Я — Эрнэст Мілер Хэмінгуэй! — працягвае крычаць мой рот. — Нарадзіўся дваццаць першага чэрвеня ў тысяча васямсот дзевяноста дзявятым годзе! Мястэчка Ок-Парк, штат Ілінойс, Злучаныя Штаты Амерыкі! І гэта я напісаў «Свята, якое заўсёды з табой»!

— І на сённяшні дзень пражываеш тут, — ужо другі. Электрычную нажоўку па-ранейшаму не выключае. — Завулак энскі, дом сем, мястэчка Го. Краіна... Усім вядомая.

— Так, — я чаўлюся крывёю. — Так. Сабакі еб...

— Маўчаць! — кулак першага правальваецца мне ў твар. — Выдатна. Што трэба. Ляпае па кішэнях штаноў. Яны застаюцца ідэальна адпрасаванымі. Дастае паперу.

Другі — доўгую барвовую асадку. Працягвае мне.

— Падпішы.

— Не буду я нічога падпісваць.

— Будзеш.

Абодва ўтаропліваюцца мне ў прамежнасць.

Цішыню па-ранейшаму паласуе на шматкі электранажоўка.

— Рукі... — выціскаю скрозь зубы.

Першы вызваляе маю правую руку. Бяру асадку. Папера — на маім калене. Яно спечана ў яблык.

Падпісваю.

— Выдатна, — другі забірае паперчыну.

Першы размотвае дрот. Адкідвае ў кут. Жэстам паказвае: магу падымацца.

— І ўсё?

— І ўсё, — усміхаецца. — Будзьце здаровыя. І захоўвайце правілы сумеснага пражывання. З дзядзечкам Хэмам. Хэ.

— Хэ-хэ, — падтаквае другі.

Яны выходзяць. Моўчкі і з гонарам.

***

Я сяджу. Нерухома. На тым жа месцы. Ужо трэцюю гадзіну. Гляджу на свой пах. На свой жудасны, ператвораны ў фарш пах. Гідотны, нечалавечы. Ці магчыма з падобным жыць? Залекаваць. Вярнуцца. Як быццам і не было.

Нічога.

Нічога?..

А думкі? Усведамленне? Накатныя, неадступныя хвалі. У маёй кватэры. На гэтай куханьцы.

І што я скажу? Ёй. Калі прыйдзе. Калі спытае.

Думаеш?..

У такія хвіліны не задаюць пытанняў.

Я падымаюся. Мяне хістае. Аднак магу стаяць на нагах. Недзе ў шафе, тут. Барадаты байкер Ваўлан. Калі надраўся. Мінулым разам. Пакінуў... А, не. Я сам адабраў. Каб той — не нарабіў. Лішняга.

Так, тут. Пад маім зімовым палітонам. Завернуты ў старую посцілку. Халодны. І — абыякавы.

Кватэру страсае стрэл. Абрэз ляціць у кут. У дальні кут, пакрыты пылам. Я — у кут бліжні.

***

— Ну сядай, расказвай, — запрашае Хэмінгуэй, калі я апынаюся там. Глядзіць сувора, аднак з прыжмурам.

Там — тое самае месца. Адкуль ужо не вяртаюцца.

— Вы...

— Я. Ты не памыліўся.

— І што я магу расказаць?

— Мяне цікавіць толькі адно.

Хэм маўчыць. Маўчу і я.

—І доўга?

— ...?

— Маўчаць будзеш.

— А... — нарэшце расплямваю рот. Суха. Тут суха. І горача... Я проста не вытрываў. Яны... Адзін за адным. Без перапынку. А потым — зноў. Ізноў!..

— Не вытрываў, — Хэм дастае люльку. Старую, абкураную. Наладвае табаку, запальвае.

— Так. Яны дабраліся да...

— Ну й дурны. Мог бы жыць. Энергіі яшчэ хапала.

Я гляджу ў вочы Эрнэста. Нічога не магу расчытаць. Пустыя, правальныя вочы.

— А ў цябе?

— Скончылася. Дакладней, яе забралі.

— Хто?

Хэм спрабуе пускаць акуратныя кольцы дыму. Не атрымліваецца. Паказвае некуды вачыма. Сачу за паглядам: у глыбіні памяшкання — акуратны пурпуровы куб. Наводдаль ад месца, дзе мы сядзім.

— Я думаў... — не адводжу вачэй ад куба.

— Я таксама. Спачатку. Як бачыш, памыляўся.

— Хіба нічога нельга было зрабіць?

— Можна. Але мяне — ніхто не слухаў.

— І толькі з-за гэтага?

— Не толькі.

Стары зацягваецца люлькай. Хвіліна не мае заканчэння. І я ведаю, што скажа Хэм, калі яна скончыцца.

Раптам марудны рух хвіліны разрывае трэск.

Падаюць дзверы.

Да нас урываюцца двое ў барвовых пільчаках. Першы ніжэйшы. Ён жуе жуйку. Другі вышэйшы. Ён крывіць вокам.

— Тут хаваецца Хэмінгуэй?

— Той! Сапраўдны. Эрнэст Мілер Хэмінгуэй, які напісаў «Свята, якое заўсёды з табой»!

Я ўтаропліваюся ў вышэйшага. Побач, на стале, дыміцца абгрызеная, скураная люлька.

Адзінокім тонкім дымком.

Я падскокваю. Але рукі другога ўпячатваюць мяне назад у крэсла.

Першы скідвае барвовы пільчак, няспешна падварочвае зарукаўкі кашулі.

Жуйку ён так і не сплёўвае.

*2024 г.*

# Высокі ціск



Аляксей БЕЛЫ

***

*Жадайце многага.*
*Майце адвагу паляцець у аблокі….*
*Майце адвагу быць шчаслівымі.*

***Збігнеў Уладзімеж Фрончак***

*За комін чапляюцца (восень ужо!)*
*аблачыны,*
*І дожджык па даху малоціць, нібыта гарох.*
*Якія заганныя вочы — у гэтай жанчыны,*
*І сумачка колеру цела. Дакладней — панчох.*

*Якія прыгожыя ў гэтай жанчыны калені!*
*За вокнамі зноўку не ноч, а прыночча,*
*сутонне.*
*Загадкаю — вочы. І ўжо аніякіх сумненняў,*
*Што ты ў іх не сёння, дык заўтра*
*ўсё роўна патонеш.*

*…Ад палкіх пяшчот і вугольчыкаў хопіць*
*і прысаку,*
*Зноў зоркі рассыпаны, недзе знікае цяпло.*
*А што там было і чаго ўсё ж у вас не было,*
*Няцяжка ўявіць па даволі высокаму ціску.*

***

*Можа, проста ўзяць і «дагнацца».*
*І на вочы — набадры («шоры»)…*
*У Парыжы ўсяго плюс трынаццаць,*
*А было калісь пад плюс сорак.*

*Ды прайшло… На жаль, не імгненне.*
*Дзе танцпол цяпер, дзе гітары?*

*А раней… Цеплаход на Сене*
*І Нотр Дам дэ Пары да пажару.*

*І Версаль, бы Нявы ўзбярэжжа,*
*Лес Булонскі ў восьмай акрузе,*
*Панарама з Эйфеля вежы…*
*Не забыць гэта ўсё, не звузіць.*

*Перагоны, ізноў перагоны,*
*Экіпажы змяняліся шпарка.*
*І Більбао пасля Барселоны,*
*І з сябрамі дарожная чарка.*

*Забываем не ўсё з гадамі,*
*Хай сабе асыпаюцца клёны…*
*А былі яшчэ ў Амстэрдаме*
*Ліхтары. Можа, з самых чырвоных!*

*…Ты з дарогай заўжды адзіны,*
*Хто за гэта цяпер асудзіць?*
*Але ўсё-ткі найперш — Радзіма,*
*Дзе жывуць табе блізкія людзі.*

***

*У царкве пастой на каленях,*
*Думай — а ці добрае сееш?*
*Можа, прыйдзе тады разуменне,*
*Што ўсяго не паспееш…*
*Адгукнецца шчымліва сэрца.*
*Хто табе сёння тут апора?..*
*А нязробленае застанецца —*
*Застанецца маўклівым дакорам.*

***

*У чарговы раз заплачуць жураўлі,*
*І з поўдня зноў пацягнуцца вагоны…*
*Ужо не ўспомніць, хто,*
*тым больш — калі*
*Трымаў далоні на тваіх пагонах.*
*Хто цалаваў цябе не напаказ,*
*Не аддаваўся (сэнс ніякі) крыўдзе,*
*Бо ведаў — гэта ж у апошні раз:*
*Твой параходзік больш сюды*
*не прыйдзе.*
*А ты? — Ты не гадаў на малацэ,*
*Бо толькі спірт тады быў у каюце.*



Фота pxhere.com

*…………………………*
*Ты ёй (хутчэй сабе!) сказаў:*
*«Забудзьце!»*
*І, мічманку сціскаючы ў руцэ,*
*У адзіноце бавіў час на юце.*

***

*Едзеш далёка ці, можа, здалёк,*
*Ну а дарога — як воля!*
*Чорная птушка, нібы матылёк,*
*Кружыць над выстылым полем.*
*Рэха (не хутка вясна) «ў берагах»,*
*Снегу ж — ну проста бязмежжа!*
*Што ёй патрэбна — у гэтых снягах,*
*Пэўна, не толькі ежа….*

***

*А час такі ўсё ж, напэўна, прыйдзе,*
*Жыццё — не толькі смех у шапіто…*
*Любіць адных, а іншых ненавідзець*
*(Павер, заўсёды знойдзецца, за што).*
*Жыць днём адным, не ўпрыгожваць елку,*
*Не ўзгадваць больш — была ці не была.*
*У лесе піць халодную гарэлку.*
*Чакаць цяпла.*

**Горы**

*Бывает и так, что вернутся не все,*
*Оставшись, где к Богу поближе…*

***Дмитрий Дарин. «Альпинист».***

*Колькі тут сонца і колькі абшару*
*(Лепей чым там, дзе брук).*
*Лягуць аблокі на струны гітары,*
*Трошкі прыглушаць гук.*
*Нехта загіне, нехта ўваскрэсне,*
*Тут нам зусім не да смеху,*
*Але не стане горшаю песня,*
*Словы патроіць рэха.*

*…Вечарам будзе ўсё, альбо зранку,*
*Можа, прыхопіш і ночку.*
*Усе тут кабеты ў вышыванках*
*І ў прыгожых вяночках.*

*Як іх за гэта ўславіць, аддзячыць, —*
*Глянь, ля вады, карагодзяць…*
*«Дзеўкі ў нас — іконы хадзячыя»,**
*— Згодзен!!!*

***

*Жанчына зусім не патрэбна,*
*пакуль не пачынаеш пра яе думаць.*

***Эрнэст Хэмінгуэй***

*Да чыстага хто з нас, скажы, не ахвочы,*
*Нібы да вады пасля осмасу…*
*Чаму у жанчыны сумныя вочы,*
*Чаму яна — быццам з космасу?*
*Ніхто ўжо табе не падрэзвае пяты,*
*Каса па траве не гуляе са свістам.*
*Павер, што ніхто ў гэтым не вінаваты,*
*Нічога ўжо не перапішаш начыста.*
*…Няшмат у цябе і сяброў, і Айчын,*
*Вялікдзень адзін, як, дарэчы, і Тройца.*
*Для шчасця цяпер усё меней прычын.*
*……………………………*
*Ты ўсё ўсвядоміў пра здраду жанчын.*
*Пара супакоіцца.*

*З кінафільма «Табар сыходзіць у неба».

# Хай міне…



Віктар САЗОНАЎ

**Стукае дождж у шыбу**

*Стукае дождж у шыбу,*
*хіба заве маліцца,*
*кліча ісці ў сядзібу,*
*толькі каб не напіцца.*

*Грукае дождж па шыбе,*
*нібы згубіў цярпенне,*
*пэўна, дае ў сядзібе*
*згоду на ап'яненне.*

*Слёзіцца дождж на шыбе,*
*сэрца дзярэ самотай,*
*гойдае па сядзібе*
*Гудаўскай адзінотай.*

*Знаю, што я не знаю,*
*больш не хачу хацення,*
*зведаў і ўжо не маю*
*гэтага ап'янення.*

*Нібы ўзышоў на плаху,*
*быццам бы лёг на дыбу,*
*як бы стралой пад паху…*
*Стукае дождж у шыбу.*

**Школьніца**

*Там ты і я… І больш няма…*
*Блукала ў поцемках зіма,*
*дзе толькі нашыя сляды…*
*Якая ноч была тады!*

*…А я ляцеў пасярод ночы,*
*і мітусіў мне снег у вочы,*
*пачуцці шчасцем абляяў,*
*надзеяй сэрца асвятляў.*

*А ты чакала як святая,*
*яшчэ такая маладая,*
*пяшчоты не спазнаўшы смак,*
*а я — зусім яшчэ юнак.*

*Завея ўсё змяла наўкола,*
*а мы стаялі каля школы,*
*нібы ў пасляўрочны час*
*настаўнік злы пакінуў нас.*

*Нас нават школа ратавала,*
*сабой ад ветру засланяла,*
*у снах заплакалі сады,*
*пад снегам тоячы сляды.*

*Бязгрэшным засталося месца,*
*дзе я назваў цябе нявестай,*
*там, дзе нявіннасць у снягах,*
*слядах, садах, слязах і снах…*

*На свеце ёсць адна прычына,*
*яна — каханая дзяўчына,*
*а гэты хлопец, што з табой,*
*тады і стаў самім сабой…*

*…Жыццё заўжды ідзе па колу,*
*і зноў вяртаецца да школы,*
*дзе школьніца ў цяні нябёс*
*нясмела свой чакае лёс.*

**Цягнецца душа да Бога**

*На шляхах ці ля парога,*
*на пустой мяжы*
*цягнецца душа да Бога*
*з крыкам: «Памажы»!*

*Мала зведаў або многа,*
*сэрцам абміні,*
*цягнецца душа да Бога*
*з крыкамі: «Прымі»!*

*Доўгая бяжыць дарога*
*аж за небакрай,*
*цягнецца душа да Бога,*
*слёзна просіць: «Дай»!*

*Там канец, мо перамога,*
*стой ці рызыкуй,*
*цягнецца душа да Бога*
*з крыкам: «Уратуй»!*

*Хоча вырвацца з астрога,*
*гора і бяды,*
*цягнецца душа да Бога,*
*цягнецца заўжды.*

**Чырвонае паліто**

*Былі зіма і белы снег,*
*быў вечар, ды мароз,*
*і першы дотык, звонкі смех,*
*наіўны, аж да слёз.*

*Жыццё ішло, і шмат знайшло,*
*і так было, і сяк,*
*што прыплыло, а што сплыло,*
*здаралася ўсяляк.*

*Ды не заменіць больш нішто*
*той вечар, звонкі смех,*
*дзе ты ў чырвоным паліто*
*ідзеш праз белы снег.*

**Хай міне…**

*Са сваёй бядой канаю*
*ля дарог,*
*толькі вось не заўважае*
*яе Бог.*
*Мо не хоча, мо не можа*
*знаць мяне…*
*Хай міне і гэта, Божа…*
*Хай міне…*

**Мудрыя правяць зоркамі**

*А кіслае будзе прэсным,*
*і чорнае стане белым,*
*калі ў пакаянні чэсным*
*спалоханы выйдзе смелым.*

*Нічога не будзе горкім,*
*не зменяцца святы на будні…*
*Дурнымі кіруюць зоркі,*
*а зорамі правіць мудры.*

# Усмешка не згубілася



Вадзім ЖЫЛКО

***Напрыканцы мінулага стагоддзя, калі жывыя былі яшчэ многія ўдзельнікі і сведкі падзей часоў Другой сусветнай вайны, я напісаў серыю нарысаў, заснаваных на «жывых» успамінах такіх людзей. Хацелася распавесці пра іх лёсы «не па-казённаму», а максімальна шчыра і непасрэдна.***

***Мінулі гады, няма ўжо на гэтым свеце герояў публікацый. Але, магчыма, іх расповеды будуць цікавыя і цяперашнім чытачам…***

З Дзмітрыем Піліпавічам Злотавым пазнаёміўся ў час паездкі былых партызан брыгады імя Кірава на месца яе дыслакацыі ля вёскі Сітніцкі Двор. А неўзабаве сустрэліся зноў. І вось Дзмітрый Піліпавіч распавядае пра сваё жыццё. Нетаропка, і не тое, каб з гумарам (які ўжо тут гумар!), але з нейкім унутраным спакоем — жыццё ж амаль пражыта. Хапала ў ім усяго…

Нарадзіўся Д. П. Злотаў у 1921 годзе на Віцебшчыне, у вёсцы Кошкіна сучаснага Гарадокскага раёна, у сялянскай сям'і. Бацька памёр, калі хлопчыку было 7 гадоў, — у хату прыйшоў айчым… Скончыўшы сем класаў, юнак падаўся ў будаўнічае вучылішча. Спачатку брація яго не хацелі — не вельмі вялікая адукацыя. Затое потым здзівіліся: на адны пяцёркі вучыўся вясковы хлопец. Два гады адпрацаваў на ваенным суднабудаўнічым заводзе №202 імя Варашылава аж ва Уладзівастоку. У 1940 годзе прыехаў на два месяцы ў водпуск — і быў прызваны ў армію. Трапіў ва ўкраінскі горад Праскураў, у школу мінёраў. На лета 1941 года школу перавялі ў лагер каля станцыі Жолква на Львоўшчыне. Граніца — побач…

— Нейк ноччу, — расказвае Д. П. Злотаў, — сядзелі разам з мясцовымі дзяўчатамі на лаўцы на вуліцы. Наш камандзір-масквіч яшчэ сказаў, што спаць зусім не хочацца. І тут пачулі гул самалётаў. Не паспелі здзівіцца, а ў лагеры ўжо рваліся варожыя снарады… Далі нам па 20 патронаў на кожнага і павялі насустрач ворагу. І самае дзіўнае, што мы спачатку адкінулі яго амаль на 20 кіламетраў. Ды скончыліся боепрыпасы — давялося адыходзіць. Пакуль быў бензін, наша група ехала на машыне, на сваім шляху падрываючы аб'екты, закладваючы міны. Потым ішлі пешшу. Напаткалі нейк месца, дзе быў штаб дывізіі, знайшлі шэсць сцягоў. Абвязаліся імі пад гімнасцёркамі, як загадаў наш камандзір. Мы яшчэ сказалі: забрудзяцца ад поту. А ён: калі трэба будзе, адмыюць..

Да Масквы дайшло 12 чалавек. Здалі сцягі, атрымалі новае абмундзіраванне. Месяц жылі ў сталіцы, харчаваліся добра, але надакучыла жыць на адным месцы. Аднойчы Д. П. Злотава разам з баявымі сябрамі вывелі на плошчу — новай дывізіі ўрачыста перадаваліся выратаваныя сцягі. Адтуль і рушылі на фронт.

Пры размініраванні пярэдняга краю варожай абароны Дзмітрый Піліпавіч быў паранены і кантужаны. Так і трапіў у палон.

— Адвезлі эшалонам у Германію. Цягалі па допытах, прапанавалі пайсці ў армію Уласава. Але ж я — камсамолец… Калі зразумелі, што нічога не даб'юцца, адправілі ў Дахау. Там я дзевяць месяцаў «адхварэў». Спрабаваў уцячы — прыкладамі пераламалі тры рабрыны, дзве ключыцы, левую нагу. Малады быў — вось што выратавала. Цяпер бы ў гэтым лагеры і дня не пражыў…

***

Дахау быў жудасна вядомым канцлагерам. Нават малады арганізм не вытрымаў: Дзмітрый Піліпавіч апынуўся ў бараку №18, адкуль адзін шлях быў — на смерць. Нейк прыехала камісія Міжнароднага Чырвонага Крыжа — а ў бараку ложкі засцелены чысцюткай бялізнай! Не ведалі міжнародныя назіральнікі, што вязні спалі пад ложкамі. Паспрабаваў бы каторы легчы на ложак!

— Нейк у туалеце знайшоў запіску, — працягвае Д. П. Злотаў. — Але па-нямецку. Я напісаў на адвароце, каб наступную напісалі па-руску. І праз тры дні знайшоў новую. Гэта было папярэджанне, што з лагера не ўцячы. «А праз каналізацыю?» — пытаюся. Адказ быў такі: каналізацыя з дошак, але ці ёсць унутры распоркі, невядома.

Дагэтуль не ведаю, хто пісаў тыя запіскі. Можа, нямецкія салдаты-антыфашысты? Выбіраць не даводзілася. Сабралася нас сем чалавек. Я вырваў сем травінак — і карацейшая трапіла мне! Палез першы. Добра, што лез рукамі наперад, — лягчэй было працiсквацца. Якраз была бура з дажджом — вада запаўняла каналізацыю. Адпачываў, можа, разоў сто. І раптам убачыў наперадзе дзірку. Вылез. Як папярэджвалі невядомыя сябры, павярнуў налева, бо справа быў вялікі роў. Поўз праз бульбяны палетак. У лагеры ўзнялася мітусня. Ланцуг салдат з сабакамі набліжаўся. Сабакі вось-вось кінуцца ў бульбу! Але салдаты раптам пацягнулі іх у іншы бок. Можа, гэта былі тыя самыя, што пісалі запіскі?

Перахрысціўся я і папоўз далей. Ішоў начамі. Еў траву. Крапіву спачатку пераціраў, каб не пякло. Аднойчы зайшоў у двор да старога немца. Той у Першую сусветную сам быў у палоне ў Расіі. Даў мне хлеба, сала, пераапрануў. Параіў да маладых баўэраў не заходзіць — нацысты!




***

У верасні 1942 года Д. П. Злотаў дабраўся да Сінкевіч. Можа, рушыў бы далей, але яго затрымаў паліцай. Павёў у нямецкую камендатуру. Сустрэлі па дарозе тоўстага афіцэра, за якім ішоў салдат з конямі. Паліцай адрапартаваў. Немцу нешта не спадабалася — і пачаў раптам пугай сцябаць і паліцая, і затрыманага. Яны так і кінуліся бегчы ў розныя бакі.

Дзмітрый выбраўся на вясковую вуліцу, а там нейкае свята — бабы сядзяць на лаўках. Тут і прапанавалі яму пажыць у адной цёткі: нарыхтуеш ёй дроў, «усходнік» (і як толькі адразу зразумелі, што быў ён з Усходняй Беларусі?). Пад'еў, паехаў па дровы, нарыхтаваў.

Дзмітрый Піліпавіч працягвае расказ:

— У вёсцы, на хутарах было нямала такіх, як я, былых палонных, акружэнцаў. Калі даведаліся, што немцы будуць зноў збіраць нас у лагеры, пайшлі ў лес, да лесніка. Прыйшоў з атрада партызан, адвёў нас у лагер. Людзей там было яшчэ вельмі мала. У мяне ўжо ў вёсцы была вінтоўка, без прыклада, праўда, але зрабіў самаробны.

Даведаліся, што я — мінёр. Прапанавалі выплаўляць тол з мінамётных мін. Месца тое назвалі «Чортава пекла» — кожную хвіліну можна было загінуць.

Першы эшалон разам з Сяргеем Бычкоўскім і Пятрам Гаўрылюком падарвалі пад Лахвай. Падрывалі і палілі масты. Нейк вярталіся з Бычкоўскім з задання — чуем: нейкі шум, трэск. «Засада!» Залеглі ў снезе. А калі агледзеліся — гэта курапаткі шумяць!

У сорак трэцім з-за блакады рушылі на захад. Цяжкія баі былі пад Святой Воляй, немцы добра сціснулі нас. Прабіліся назад, ва ўрочышча Соплева. Я, Бычкоўскі і Воўк (партызан з Кажан-Гарадка) пайшлі на разведку. А потым да Першамая атакавалі ворага ўсім атрадам. А то ён ужо пісаў у газетах, што партызаны знішчаны.

У 1943 годзе пачалі скідваць з самалётаў боепрыпасы, узрывчатку — павесялеў падрыўнік. На ўчастку Мікашэвічы — Сітніца столькі падарвалі цягнікоў, што вораг правёў нават абходны пуць. Але і да яго падбіраліся праз балота. Ляжалі ў вадзе — і не хварэлі!

***

У ліпені 1944 года атрад імя Сталіна брыгады імя Кірава, дзе Д. П. Злотаў быў камандзірам аддзялення, злучыўся з Чырвонай Арміяй. Па загаду камандзіра зняў пастаўленыя ім раней міны, але шмат жа было і нямецкіх. Нейк на яго вачах наскочыла машына на міну — некалькі параненых. Разам з армейскімі сапёрамі здымаў нямецкія міны, што ў час выбуху падскоквалі ў паветра, як жабы. Потым дабраўся да Лунінца — атрад стаяў на Залессі. Накіравалі на чыгунку — абясшкоджваць бомбы, што заставаліся пасля налётаў. Праз два тыдні папрасіўся на фронт. У райкаме былы камбрыг Лісовіч накрычаў, але потым даў дазвол. Трапіў пад Варшаву, дзе быў паранены. Праляжаў некалькі тыдняў у пінскім шпіталі. Потым прайшоў з баямі Літву, Латвію, Эстонію. Пры штурме Кёнігсберга асабліва запомнілася, як размініравалі будынак банка.

А 7 мая 1945-га пад нейкай вёсачкай — зноў раненне. Дагэтуль засталіся ў целе некалькі асколкаў… Вайну скончыў, як і пачынаў, старшыной. Ехаў з фронта з ордэнамі Славы III ступені, Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Зноў накіравалі ў Лунінец. Узначальваў арцель «Свабода» (будучы КБА). Тут жа, як жартуе, на Базарнай плошчы (цяпер — плошча Леніна) «схапіў» сабе жонку — Алену Афанасьеўну, настаўніцу.

Пасля вайны працаваў у асноўным у будаўнічых арганізацыях майстрам, 11 гадоў — у «стройбаце» на лунінецкім аэрадроме, узводзіў вайскоўцам жыллё і іншыя пабудовы. Меў другую групу інваліднасці. Дзве дачкі, восем унукаў, тры праўнукі…



# Адно і тое ж?

## Вінцэсь Мудроў. «Меліярацыя з Альберам Камю»

Кніжны ХОМА

Аднойчы ўбачыў на фэйсбук-старонцы Вінцэся Мудрова такі допіс:

«Надоечы прачытаў пра сябе. Маўляў, піша Мудроў някепска, але адно і тое ж. Зараз, калі хто спытае: што я там пішу? — адкажу як на споведзі: «Адно і тое ж».

Запомніўся і адзін з каментароў, пакінутых пад тым допісам: «Напэўна, гэта называецца стыль. Горш, калі яго няма».

Цікава, дарэчы, што той допіс з'явіўся на старонцы пісьменніка праз некалькі дзён пасля публікацыі майго водгука на «Нафтаград» — пакуль што апошнюю кнігу Вінцэся Мудрова. Апроч іншага, звярнуў там увагу на пэўныя самапаўторы. Магчыма, простае супадзенне, аднак словы пра стыль я нязменна згадваў падчас чытання яшчэ адной кнігі аўтара: «Меліярацыя з Альберам Камю» (так і цягне напісаць «Хамю»).

Стыль Мудрова сапраўды адметны: густоўная мова, лёгкі гумар і нечаканыя канцоўкі (у тым сэнсе, што не чакаеш іх у гэтым месцы). «Меліярацыя» не стала выключэннем. Зборнік складаецца з 10 апавяданняў, большасць з каторых вяртае нас у савецкі час. Як заўсёды, прыгоды герояў апісаны жыццёва і іранічна, тэма алкаголю раскрыта грунтоўна, а на старонках сустракаюцца ўжо знаёмыя нам героі. Што крыху здзівіла, дык гэта расстаноўка твораў: першыя апавяданні асабіста мне не зайшлі, але потым пачалося самае смачнае.

Разынкай кнігі для мяне сталі творы, дзе так ці інакш фігуруюць камары: «Дом творчасці» і «Тайна Пронінай сажалкі». Асабліва вылучу апошні аповед, бо лічу яго лепшым у жанры «сельскага-спадарчы дэтэктыў» (яго я толькі што прыдумаў). Уявіце: жыхары Мандрыкаўскага раёна пачалі заўважаць вялізных камарочкаў, якія, пацэліўшы чалавеку ў лабешнік, могуць збіць з ног. За справу бярэцца Рыгор Налівайка, журналіст мясцовай газеты. Ці разгадае ён гэтую таямніцу? Магчыма, калі не пойдзе ў чарговы запой…

Што пакрытыкую, дык гэта анатацыю: «Зборнік складаюць 10 апавяданняў, у якіх аўтар піша пра нашы дні, а таксама згадвае часы сваёй маладосці». Гэта ўсё праўда, аднак ці атрымалі вы патрэбную інфармацыю пра кнігу? І ўвогуле, ці можа такая анатацыя зацікавіць? Хутчэй наадварот. Прыкладна такая ж сітуацыя і з іншымі кнігамі Мудрова, што стаяць на маёй паліцы. Вядома, тут не да




аўтара пытанне, а да выдаўцоў. Не ўпэўнены, што словы маленькага пухнаціка будуць пачутыя, аднак на поўным сур'ёзе заяўляю: гатовы задарма пісаць анатацыі, калі ў гэтым будзе патрэба.

# Вандроўка любові

## Ганна Кандрацюк. «Проста з любові. Рэпарцёрскія партрэты памяці»

Валянціна АКСАК

***Вялікая падарожная кніга Ганны Кандрацюк***

Першае чытацкае ўражанне: усе папярэднія кнігі Ганны Кандрацюк улучна з лаўрэацкай Гедройцеўскай «У прысценках старога лесу» былі толькі падрыхтоўкай да гэтае новае. Аўтарка нібы падсвядома адчувала, што пакуль яна не даследуе псіхалогію і звычаі тысячаў нічым не выбітных сваіх суродзічаў, датуль не можа падступіцца да заглыблення ў людскую памяць, дакументальную фактаграфію і псіхамістычную аўру мясцінаў свайго краю, якія далі свету выдатных асобаў гісторыі і культуры.

І вось яна перад намі, гэтая вялікая кніга таленавітай падарожніцы па мясцінах волатаў духу.

***Пра што кніга?***

Чыйсьці адказ на гэтае пытанне часам робіцца вызначальным на карысць набыцця і прачытання кніжнае навінкі.

Дык вось. Гэтая кніга — пра любоў. Пачынаючы з самой назвы — «Проста з любові». Ганна Кандрацюк палічыла, што словы аднаго з яе герояў мастака Януша Талуця, які зрабіў помнік паўстанцам 1863—1864 гадоў у Мастаўлянах, найбольш выказваюць змест і стылістыку кнігі. Але гэта і словы пра творчы метад аўтаркі. Сваёй любоўю яна растапляе недавер сустрэчных на сваіх бясконцых шляхах да людзей. З першае, пятае, дзясятае спробы яна ўрэшце чуе тое, што ў іншым выпадку гэтыя людзі панеслі б з сабой у магілу.

І яшчэ гэта кніга любові да тых, пра каго яна піша, і да тых, для каго піша. Рэдкі талент. Нашмат радзейшы за ўменне складаць у бездакорны парадак словы. Сярод якіх — ніводнага неабавязковага. У чым выяўляецца надзвычайная павага да чытача, якога сваім лаканізмам пісьменніца пазбаўляе марнавання часу ў пошуках пярлінак кнігі. Як і строгім датрыманнем дакументаванай фактаграфічнасці канчатковае мэты вандроўкі. А мэта ў кожным новым падарожжы адна: дайсці да невядомых старонак жыцця вядомых асобаў.

Урэшце гэтая кніга — пра пакутнікаў і трагедыі. Самыя цяжкія старонкі для чытача. А як тое незагойнае гора было перанесці з душы на паперу, вядома адно самой пісьменніцы.

***Кастусь Каліноўскі, нацыянальны герой, які да сёння ў канспірацыі***

«Ля бюста-помніка каралю Жыгімонту Аўгусту II знаходзіцца стэнд са знакавымі, на думку тутэйшых гісторыкаў, датамі для Ялоўкі. Мяне прыемна здзівіла згадка пра паўстанцаў 1863—1864 гадоў. Гэта быў першы і апошні след у справе Кастуся Каліноўскага. Я ўжо раней зразумела, што не магу разлічваць на факты, гістарычныя сляды, сустрэчы са сваякамі, якія захоўваюць старыя фатаграфіі. Дарэчы, усе даследчыкі згодны ў адным: Вікенцій-Канстанцін Каліноўскі нават пасля смерці астаўся ў канспірацыі».

Сярод запісаў пра векапомныя падзеі Ялоўкі чытаем: *«1863 год. На Зялёныя святкі ў Ялоўцы з'явіліся патрызаны Студзеньскага паўстання з Валерыем Урублеўскім на чале, тут быў зачытаны Маніфест Нацыянальнага ўрада; у партызанскія рады былі прынятыя 100 добраахвотнікаў»*.

Расповед пісьменніцы пра пошукі слядоў Кастуся Каліноўскага займае першыя трыццаць старонак кнігі. Канцэнтрацыя тэксту такая, што маеш адчуванне, быццам прачытаў цэлы вялікі дакументальны раман. І хочацца, каб такі раман з-пад пяра Ганны Кандрацюк неўзабаве з'явіўся. Магчыма прачытаўшы яго, падляшцы перастануць сцвярджаць, што ў «Мастаўлянах усе нараджаліся маленькімі».

***Ксёндз Ежы Папялушка, якому цяжка быць прарокам у сваёй вёсцы і парафіі***

«Калі я стаяла каля хаты Папялушкаў, мяне цягнула пайсці да рачулкі, ахіленай альшынай і вербалозам, дзе расцёхкаліся салаўі. Менавіта там, ля старых альшын, хаваўся ад будзённых думак будучы абранец Касцёла, каб у адзіноце пагутарыць з Усявышнім. Зараснік вызначае першую мяжу далягляду, ён знаходзіцца за нейкіх дзвесце метраў у простай лініі ад хаты. Падчас чарговай сустрэчы маці блаславёнага ні адтуль ні адсюль задасць нам добрае пытанне:

— *A kiedy człowiek jest najpiękniejszy?* (А калі чалавек самы прыгожы? — Г. К.)

Хоць мы разумелі, што сучасныя меркі прыгожасці тут ні пры чым, але так і не адгадалі простай загадкі дзевяностагадовай Мар'яны Папялушкі.

— *Człowiek jest najpiękniejszy wtedy,* — жанчына паглядзела на нас з дабрынёй, — *jak na nikogo się nie gniewa.* (Чалавек самы прыгожы тады, калі на нікога не гневаецца — Г. К.)

Пасля гэтага жанчына заспявала нам касцельныя песні на польскай мове, а калі мы папрасілі, каб прыгадала нейкую народную, яна адказала:

— Я толькі святыя песні спяваю».

Сустрэча з маці абаронцы і заступніка людзей свабоды, легендарнага капэляна працоўнага руху «Салідарнасць», забітага спецслужбамі ксяндза Ежы Папялушкі моцна ўразіла аўтарку кнігі. Але не менш узрушэння пакідаюць у чытача расповеды Ганны Кандрацюк пра беларускую мову блаславёнага і ягоных сваякоў і землякоў, хоць бальшыня з іх сваю этнічнасць вызначае па канфесійнай прыналежнасці. Толькі надзвычайная далікатнасць пісьменніцы можа выклікаць у суразмоўцаў падабныя прызнанні.

«На пытанне, ці размаўляюць у Дамуратах яшчэ па-простаму, мы пачулі:

Гэта не зусім па-просту, гэта быццам беларускі язык, — так паясніў нам малады гаспадар».

Паехаўшы на мазурска-ліцвінскае памежжа ды пахадзіўшы па тых сцежках і дарогах, якія яшчэ цепляцца слядамі легендарнага ксяндза-беларуса, вы, як і аўтарка кнігі, адкрыеце шмат дзівосных рэчаў, мясцінаў і — галоўнае — людзей. Там у 1947-м з'явіўся на свет звычайны хлопчык Алік, які пакінуў гэты свет у 1984-м незвычайным абаронцам свабоды Ежы Папялушкам.

***Першая дама паэзіі ў Польшчы Надзея Артымовіч, якую святар адпяваў безыменнай***

«Ніколі раней я не была на такіх халодных і нямых мярлінах. У час развітальнай паніхіды, вечарам 4 кастрычніка 2023 года, бацюшка не сказаў ніводнага слова аб памерлай, не назваў яе імені і прозвішча, быццам хавалі безыменную бамжыху».

Такім агаломшаным пачуццём Ганна Кандрацюк пачынае амаль ад першых слоў свой расповед пра Надзею Артымовіч. Самая вядомая паэтка з Бельска была аддадзеная роднай зямлі невядомаю нябожчыцай.

«Ды яшчэ той малады святар, як мантру, паўтараў: *«Молитеся за одпущение грэхов рабы божия…»* Пабочны ўдзельнік мог падумаць, што хаваюць не заслужаную асобу, а праклятую грэшніцу і здрадніцу, не вартую аднаго добрага слова».

А ў той восеньскі дзень у Бельску пахавалі першую даму паэзіі ў Польшчы. Так назвала яе варшаўская прафесарка-літаратуразнаўца Тэрэса Занеўская. Менавіта так, не на Падляшшы, а ў цэлай Польшчы. Для сяброў і адданых чытачоў Надзея Артымовіч такой і застанецца.

Магчыма, прачытаўшы пра яе ў кнізе «Проста з любові» ды павандраваўшы па яе родным Бельску і ваколіцах, вы пойдзеце ў кнігарні і бібліятэкі. І ў яе вершаваных томіках таксама адкрыеце для сябе першую даму паэзіі краіны, у якой жывяце.

***Эль Грэка і Алесь Пушкін, містычныя мастакі-экуменісты***

«Пакуль цяжка адназначна сказаць, якім чынам абраз Эль Грэка трапіў у Польшчу. Яго адкрыццё даследчыкі мастацтва называюць цудам. Карціна была асуджана на знішчэнне. Выратавалі яе дзве маладыя супрацоўніцы Польскага інстытута мастацтва Ізабэла Галіцкая і Ганна Сегетынская, якія ў 1964 годзе прыехалі ў плябанію ў Косаў-Ляцкі зрабіць спісак карцін і помнікаў культуры. «Святы Францішак» на першы погляд падаўся ім арыгіналам. Увагу прыкаваў аўтограф. Як вядома, іспанскі мастак падпісваў свае творы грэчаскім шрыфтам. Праўда, паверыць у знаходку было не проста. У бок даследчыц пасыпаліся словы крытыкі і абурэння. Аднак час і дакладная экспертыза зрабілі сваё. Арыгінальнасць знаходкі пацвердзілі сусветныя аўтарытэты мастацтвазнаўства. Цяпер косаўскі «Святы Францішак» як магніт прыцягвае айчынных і замежных наведвальнікаў. З 2004 года карціна аздабляе Дыяцэзіяльны музей у Седльцах».

У 2014-м там адбыўся міжнародны мастацкі пленэр «У бляску Эль Грэка», куды з Беларусі ў ліку іншых прыехаў і Алесь Пушкін. Ён, як і аўтарка кнігі, уражаны, што адзіны «польскі» абраз Эль Грэка знайшоў сабе схоў на памежжы ўсходняга і заходняга хрысціянства. Падзел гэты для яго хутчэй даніна традыцыі, чым светапогляды, а ўжо тым больш зусім не сучасны эстэтычны.




Развагі знішчанага ў 2023-м мастака, рэфлексіі аўтаркі кнігі ад ягонай асобы і творчасці захопліваюць чытацкую ўвагу як містычны трылер. А яшчэ ж тут змешчанае іхняе ліставанне, у якім так шмат прарочых думак, праз якія прасочваецца прадчуванне трагічнага скону Алеся Пушкіна, вялікага экуменіста з беларускага мястэчка Бобр.

***Для каго гэтая кніга?***

Падляшша — гэта зачараваны край. Няўзброенаму ведай падарожнаму адкрываюцца балоцістыя краявіды з размытымі ў белым тумане зубрынымі статкамі, спрацаванымі рукамі на каленях старых вяскоўцаў, якія сядзяць пры сваіх раўналетках-хацінах ды з насцярогаю глядзяць на кожнага заезжага. А той перакананы, што на польных лапіках між хвояў ды алешын гэтых мясцінаў могуць прарасці толькі зярняты непрыкметных дзікіх кветак. Але з праясненых сонцам гадоў і стагоддзяў выступаюць насустрач адна за другою велічныя постаці асобаў, чые дзеі і таленты ярка расквечваюць старонкі гісторыі вялікага абшару ўсходняй і цэнтральнай Еўропы. Да мясцінаў нараджэння іхняга духу з гэтай кнігай у руках будзе так лёгка даехаць па пракладзеных аўтаркай маршрутах. І не мае значэння, як вы апынуліся тут. Ці жылі спрадвеку, ці віхуры лёсу прыгналі вас сюды зусім нядаўна. Проста з любові выпраўцеся ў вандроўку да тых, хто любіў і любіць сваё Падляшша, сваю Беларусь, і да тых, хто шануе памяць пра любоў. І кажа вам у адказ на прывітанне — «То ўзаемна».

# «Лепшае, што напісана пра жаночую долю»: Сігрыд УНСЭТ



Алена ДАРАФЕЕВА

Нарвежская пісьменніца Сігрыд Унсэт (Sigrid Undset, 1882—1949) — трэцяя жанчына, якая атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры пасля Сельмы Лагерлёф (1909) і Грацыі Дэледы (1926). Яна стала таксама трэцім нарвежскім набеліятам — пасля Б'ёрнстэрнэ Б'ёрнсана (1903) і Кнута Гамсуна (1920). Галоўная кніга яе жыцця — трылогія «Крысцін, дачка Лаўранса» (1920—1922). «Гэта лепшае, што напісана пра жаночую долю. Перад ёй "Ганна Карэніна" — эпізод», — выказалася пра трылогію Марына Цвятаева.

## Дзяцінства і юнацтва

Сігрыд Унсэт нарадзілася 20 траўня 1882 года на востраве Зеландыя ў Даніі. Яе бацька, археолаг Інгвал Унсэт, у дваццаць восем гадоў стаў ужо вядомым навукоўцам, аўтарам фундаментальнай працы «Пачатак жалезнага веку ў Паўночнай Еўропе». Маці, Анна Шарлота Гют-Унсэт, датчанка, была адукаванай жанчынай, вернай памочніцай мужа: перакладала на французскую мову яго навуковыя працы, з дакладнасцю рабіла замалёўкі прадметаў, знойдзеных на раскопках. Калі Сігрыд споўнілася два гады, сям'я пераехала ў Нарвегію. Там у Хрысціяніі (цяперашнім Осла) прайшлі яе дзяцінства і юнацтва. Сігрыд была першым дзіцем у сям'і, любіміцай бацькі. Ён марыў, што яна стане, як і ён, археолагам, і яны будуць працаваць разам. Як успамінала пасля Унсэт, бацька дазваляў ёй гуляць тэракотавым конікам, адной з археалагічных знаходак славутага Хенрыка Шлімана. Але гэтым марам не наканавана было здзейсніцца.

У 1893 годзе Інгвал Унсэт ва ўзросце сарака гадоў памёр ад нярвовага захворвання. Жыццё сям'і крута змянілася. Удава з трыма дзецьмі вымушана была існаваць на бедную пенсію. Сігрыд марыла аб занятках мастацтвам, літаратурай, хацела стаць мастачкай і часта з алоўкам у руках блукала па вуліцах Хрысціяніі. Аднойчы лёс звёў яе, трынаццацігадовую дзяўчынку, з вядомым нарвежскім мастаком Тэадорам Кітэльсэнам. Яна паказала мастаку свае малюнкі. Уважліва разглядзеўшы іх, Кітэльсэн вымавіў: «На жаль, небарачка, талент у цябе ёсць... Але не станавіся мастачкай, мілае дзіця, няма ў гэтым ніякай радасці. Вечная незадаволенасць сабой, імкненне нешта палепшыць. Вечнае імкненне да недасягальнай мэты. Апроч гэтага мастака часта чакаюць знявагі, беднасць, інтрыгі і плёткі. Так, дзяўчынка, талент — гэта не радасць, а праклён».

На плечы Сігрыд леглі клопаты аб малодшых сёстрах і маці. Дзяўчыне давялося паступіць у Камерцыйные вучылішча, дзе рыхтавалі сакратароў. Звыш дзесяці гадоў яна служыла ў аддзяленні Усеагульнай кампаніі электрычнасці ў Осла. Сігрыд не любіла сваю працу, часам ёй здавалася, што яна марна траціць час і маладосць. Каб не ўпасці ў роспач, дзяўчына пісала вершы, абдумвала план рамана з гісторыі нарвежскага Сярэднявечча.

## Першыя літаратурныя доследы і сямейнае жыццё

У 1905 годзе Зігрыд Унсэт напісала аповесць, дзеянне ў якой адбываецца ў XIII стагоддзі. Дырэктар дацкага выдавецтва «Гюльдэндаль» не прыняў тэкст да публікацыі і параіў дзяўчыне не пісаць гістарычных раманаў, а паспрабаваць засярodзіцца на сучаснасці. Зігрыд паслухала, і ў 1907 годзе адбыўся літаратурны дэбют Унсэт — выйшаў у свет яе раман «Фру Марта Оўлі». Першая фраза гучала па тых часах скандальна: «Я не слухалася свайго мужа».

Сігрыд звярнулася да тэм шлюбу, мацярынства і ўзаемаадносін людзей у сучасным Осла. Раман меў поспех, і Унсэт атрымала дзяржаўную літаратурную стыпендыю для падарожжа за мяжу. Яна пакідае службу ў канторы і адпраўляецца ў падарожжа па Германіі і Італіі. Гэтая паездка стала цэнтральнай падзеяй у яе жыцці. У Рыме яна сустрэла свайго будучага мужа — нарвежскага мастака Андэрса Кастэса Сварстада. Італьянскія ўражанні леглі ў аснову рамана «Ені» (1911), які прыцягнуў да сябе ўвагу чытачоў і крытыкаў. У рамане паказана гісторыя маладой жанчыны, мастачкі, якая прыехала ў Італію ў пошуках кахання і натхнення. Заблытаўшыся ў любоўных адносінах, Ені заканчвае жыццё самагубствам. Кніга стала нечаргодна папулярнай, хоць некаторыя крытыкі назвалі яе амаральнай з-за занадта адкрытых для таго часу любоўных сцэн.

У 1912 годзе Унсэт выйшла замуж за Сварстада. Яна стала маці дваіх дзяцей, акрамя таго ў сям'і выхоўваліся трое дзяцей Андэрса ад першага шлюбу. У той жа час яна не спыняла пісаць, у асноўным начамі, калі ўсе члены сям'і клаліся спаць.

У 1913 годзе выходзіць зборнік апавяданняў, а ў 1914-м — раман «Вясна», які апавядае пра жаночую душу, сутыкненне раманТычных летуценняў са штодзённай прозай жыцця. У гэтым жа ключы напісаны і зборнікі навэл «Аскепкі люстэрка троля» (1917), «Мудрыя панны» (1918) і зборнік вершаў «Вясновыя аблокі» (1921).

## «Іліяда Поўначы»

Шлюб Сігрыд аказаўся нядоўгім, у 1919 годзе яна рассталася з мужам і з'ехала ў Лілехамер, дзе нарадзіла трэцяе дзіця. У сядзібе Б'ёркебек («Бярозавы ручай») пачынаецца новы, самы плённы перыяд яе жыцця і творчасці. Сігрыд вяртаецца да сваёй даўняй мары: напісаць раман з гісторыі нарвежскага Сярэднявечча, але пры гэтым рэалістычна адлюстраваць лёс выдатнай жанчыны, яе барацьбу за асабістае шчасце. Так з'яўляецца раман-трылогія «Крысцін, дачка Лаўранса», які стаў вяршыняй творчасці Унсэт Сігрыд. Гэты твор, які складаецца з трох раманаў «Вянок» (1920), «Гаспадыня» (1921) і «Крыж» (1922), можна разглядаць і як гістарычны раман, і як сямейную сагу пра жаночы лёс. Дачка археолага, знаўца і захопленая прыхільніца скандынаўскага Сярэднявечча, Сігрыд Унсэт з дзіўнай дакладнасцю аднавіла атмасферу XIV стагоддзя. Але ў першую чаргу ёй




Сігрыд УНСЭТ. Час юнацтва

удалося стварыць псіхалагічную і філасофскую драму, у цэнтры якой — лёс галоўнай гераіні Крысцін і яе каханне да Эрленда, дзеля якога гераіня ахвяравала ўсім, што ў яе было. «Усё яе жыццё ляжала ў ягоных абдымках», — пісала Унсэт.

Раман «Крысцін, дачка Лаўранса» шматкроць перавыдаваўся ў Нарвегіі і выходзіў велізарнымі накладамі за мяжой, у прыватнасці — у Нямеччыне (250 тысяч асобнікаў, у Савецкім Саюзе — 450 тысяч асобнікаў). Кніга была перакладзена на многія еўрапейскія мовы. Сігрыд Унсэт незвычайна любіла гэты раман. Калі ў 1937 годзе Галівуд прапанаваў ёй велізарны па тых часах ганарар — 50 тысяч даляраў за аўтарскія правы, — пісьменніца адмовілася, баючыся, што «фабрыка мрой» можа сапсаваць яе любімае стварэнне.

Унсэт вырасла ў нерэлігійнай сям'і. Аднак Першая сусветная вайна і разрыў сямейных адносін паўплывалі на яе светапогляд. Яна перажыла духоўны крызіс, у выніку якога ў 1924 годзе звярнулася ў каталіцтва — зусім непапулярную ў тыя гады рэлігію ў Нарвегіі.

Праз некалькі гадоў Сігрыд Унсэт напісала дылогію «Улаў, сын Аўдуна з Хествікена» (1925) і «Улаў, сын Аўдуна, і яго дзеці» (1927), якая храналагічна і тэматычна дапасоўваецца да трылогіі «Крысцін, дачка Лаўранса». Дзеянне раманаў адбываецца ў Нарвегіі ў канцы XIII стагоддзя, у цэнтры апавядання — гісторыя кахання заручаных у дзяцінстве Аўдуна і Інгун.

У 1928 годзе Сігрыд Унсэт была прысуджана Нобелеўская прэмія па літаратуры «за яркую выяву сярэднявечнай Скандынавіі». Гэта быў сапраўдны трыумф пісьменніцы. У Лілехамеры ёй была наладжана ўрачыстая сустрэча з факельным шэсцем. Сродкі, якія Унсэт атрымала як лаўрэатка Нобелеўскай прэміі (велізарную на той час суму ў 156 тысяч крон), яна выдаткавала на дабрачыннасць: палова пайшла на заснаванне фонда дапамогі бацькам дзяцей-інвалідаў, названага імем яе дачкі, астатняе — на стварэнне школ для дзяцей з бедных каталіцкіх сем'яў і падтрымку маладых нарвежскіх пісьменнікаў.

## Пасля Нобелеўскай прэміі

Значным творам Сігрыд Унсэт пасля атрымання Нобелеўскай прэміі стала аўтабіяграфія «Адзінаццаць гадоў» (1934). Пісьменніца адлюстравала ў ёй сваё шчаслівае дзяцінства, пачуццё абароненасці, якое знікла з яе жыцця пасля смерці бацькі.

У 1935 годзе Унсэт узначаліла Саюз нарвежскіх пісьменнікаў. Яна актыўна выступала супраць фашысцкіх і нацысцкіх рэжымаў, узначаліла кампанію за прысуджэнне Нобелеўскай прэміі міру вязню гітлераўскага канцлагера публіцысту і антыфашысту Карлу фон Асецкаму (які атрымаў узнагароду ў 1936 годзе). У 1939 годзе выходзіць раман «Мадам Дартэя», які распавядае пра Нарвегію канца XVIII стагоддзя, пра трагедыю жанчыны, якая застаецца адна з сямю дзецьмі на руках пасля гібелі мужа.

## Час страт

З канца 1930-х гадоў для самой Сігрыд Унсэт надыходзіць час пакут і страт. У 1939 годзе паміраюць маці і дачка пісьменніцы. Пасля пачатку Зімовай вайны (1939—1940) Унсэт прадала свой нобелеўскі медаль за 25 тысяч крон і перадала ўсе атрыманыя грошы для дапамогі фінскім дзецям. Таксама яна прытуліла ў сябе ў доме трох фінскіх дзяцей-бежанцаў. Пры гэтым яна спачувае і простым людзям з савецкага боку, нявінным ахвярам, «сотням тысяч рускіх салдат, якія былі забітыя, сталі проста гарматным мясам».

Другая сусветная вайна, акупацыя Нарвегіі ў красавіку 1940 года стала такой жа трагедыяй для Сігрыд Унсэт, як і для пераважнай большасці нарвежцаў. Нацысты забаранілі ў Нарвегіі і ў Германіі яе артыкулы, якія выкрывалі расавую нецярпімасць і адстойвалі рэлігійныя перакананні. Сігрыд Унсэт апынулася ў ліку першых, каму пагражаў арышт. Ёй давялося тэрмінова спаліць лісты і паперы і бегчы на лыжах з малодшым сынам Гансам у нейтральную Швецыю. Уцёкі сталі нялёгкім выпрабаваннем для пяцідзесяцівасьмігадовай жанчыны; час ад часу яе везлі на санях. Шлях ляжаў да выратавальнай шведскай мяжы, уздоўж якой былі наладжаны спецыяльныя пункты прыёму бежанцаў. Здавалася, усё горшае ззаду, але ў Швецыі Унсэт чакала страшная вестка аб смерці старэйшага сына Андэрса, які пайшоў у войска добраахвотнікам абараняць Нарвегію.

## «Вяртанне ў будучыню»

Са Швецыі Сігрыд Унсэт прарабіла доўгі шлях у ЗША, і шлях гэты ляжаў праз Савецкі Саюз і Японію. Гэтым падзеям вясны і лета 1940 года прысвечана яе кніга «Вяртанне ў будучыню» (1942, апублікавана ў 1945). Лёс кнігі не пазбаўлены драматызму. Іранічнае, а то і рэзка негатыўнае стаўленне да савецкай рэчаіснасці выклікала пратэст савецкіх афіцыйных колаў. Амбасада СССР у Нарвегіі расцаніла кнігу як паклёп і запатрабавала, каб яна была канфіскаваная з продажу, у адваротным выпадку выдавецтва «Аскехаўг» пазбавіцца магчымасці публікаваць савецкіх пісьменнікаў. З павагі да дапамогі СССР у вызваленні Паўночнай Нарвегіі нарвежскае МЗС, «Аскехаўг» і сама Сігрыд Унсэт былі вымушаны пагадзіцца з тым, што наклад быў адпраўлены на склад выдавецтва. Кніга выйшла ў Нарвегіі толькі праз чатыры гады, ужо пасля смерці пісьменніцы, у 1949 годзе.

«Вяртанне ў будучыню» — гэта яскравае гістарычнае сведчанне і каментар да падзей страшнай эпохі. Часам Сігрыд Унсэт цяжка быць аб'ектыўнай, яна ўзрушана нападам на сваю радзіму, гібеллю сына. Яна імкнецца зразумець сутнасць таталітарызму. Уступаючы ў палеміку са сваім вялікім суайчыннікам Гамсунам, які заплямiў сябе падчас Другой сусветнай вайны калабарацыянізмам, Унсэт апынаецца ў палоне падобных ілюзій і памылак. «Калі Гамсун безумоўна верыў у веліч і гуманізм нямецкай культуры, крытыкуючы Амерыку за меркантыльнасць і "бездухоўнасць", а Англію — за каланіяльныя памкненні, то Сігрыд Унсэт, наадварот, гэтак жа ірацыянальна выказвае прама процілеглыя меркаванні аб заганнасці нямецкай, англасаксонскай культуры», — адзначыла ў прадмове да кнігі перакладчыца Элеанора Панкратава.

Амерыка ўяўлялася Унсэт сімвалам дэмакратыі, менавіта з яе моцай яна звязвала надзеі на магчымасць супрацьстаяць нацызму, выратаваць заходнюю цывілізацыю і ўсё чалавецтва.

У перыяд з 1941 па 1945 год Сігрыд Унсэт жыла ў Нью-Ёрку, пісала артыкулы, тэксты радыёперадач, ездзіла з лекцыямі, была старшынёй саюза «Свабодная Нарвегія». Яе галоўнай духоўнай апорай з'яўлялася хрысціянства, у позні перыяд свайго жыцця яна была дбайнай каталічкай. Нягледзячы на сваю непрыязнасць да немцаў, Унсэт ужо ў самым пачатку вайны піша аб неабходнасці арганізацыі дапамогі народу Германіі, якому павінен быць дадзены шанец на пабудову нармальнага жыцця: «Дзеля саміх сябе, не кажучы ўжо пра хрысціянскія і гуманітарныя каштоўнасці, пераможцы павінны будуць прыкласці ўсе намаганні, каб дапамагчы Германіі ўстаць на ногі ў эканамічным плане».

Уражанні Унсэт аб Савецкім Саюзе ў нечым вельмі прадузятыя (напрыклад, яна піша пра тое, што там мала чытаюць, бо газеты выкарыстоўваюцца як абгортачная папера, і ніхто не чытае ў сталовых і рэстаранах), але як дапытлівы і глыбокі чалавек, яна заўважае і са шкадаваннем фіксуе непрыемныя моманты савецкай рэчаіснасці. Яна піша аб кантрасце грамадскіх будынкаў з жылымі кварталамі, аб прыбіральнях без каналізацыі ў цэнтры Масквы, аб жабраках і аб паўсюдным паху беднасці. Унсэт выказвае надзею на тое, што мастацкі густ там не мог цалкам знікнуць з-за бяздарнай «наглядной агітацыі», нязменных і паўсюдных плакатаў і лозунгаў, шэрасці і аднастайнасці, за якімі хаваецца беднасць. «На мяне, хто прыехала з Захаду, гнятлівае ўражанне зрабілі пустыя крамы, недахоп такіх неабходных рэчаў, як абутак і мыла, поўная і паўсюдная занядбанасць дамоў і вуліц», — піша Унсэт у прадмове да кнігі. Пры гэтым яна шчыра, хоць і наіўна, зазначала: «Але як бы там ні было, сама я вельмі люблю кветкі і кожны раз, калі бачу, што і рускія любяць кветкі, у мяне ўзнікае радаснае пачуццё, што мы цалкам маглі б знайсці агульную мову, прынамсі, у размовах на гэтую тэму, калі б я ведала хаця б некалькі слоў на іх мове».

У 1945 годзе Сігрыд Унсэт вярнулася ў Нарвегію. Па вяртанні на радзіму яна была ўзнагароджана Вялікім крыжом ордэна Святога Олафа «за выдатныя заслугі ў літаратуры і служэнні народу».

Апошнія гады жыцця Сігрыд Унсэт правяла ў Лілехамеры, дзе і была пахаваная. У сядзібе Б'ёркебек сёння знаходзіцца яе дом-музей.

## Прэмія імя Сент-Экзюперы

Абвешчаны лаўрэаты Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Антуана дэ Сент-Экзюперы (Францыя-Германія). Яе лаўрэатамі за выдатную творчую дзейнасць сталі вядомыя пісьменнікі, журналісты, перакладчыкі, навукоўцы, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы.

Заснавальнікамі ганаровай прэміі з'яўляюцца Сусветная асацыяцыя дзеячаў літаратуры, мастацтва і культуры (Германія) і яе прадстаўніцтва ў Францыі «Глорыя-Ліён», а таксама Міжнародная акадэмія літаратуры, мастацтва і камунікацыі (Германія).

Сёлетнімі лаўрэатамі прэміі сталі: Artyr Ratiani (Germany), Viktor Vasilchuk (Ukraina), Tamara Alochina (USA), Lubov Mosley Pivnik (USA), Alvaro Maio (Portugal).

На прэмію імя Антуана дэ Сэнт-Экзюперы-2025 было намінавана больш за 200 кандыдатаў з 68 краін.

## Прэмія імя Джорджа Оруэла

Украінскую пісьменніцу Вікторыю Амеліну абвесцілі фіналісткай прэміі Джорджа Оруэла ў намінацыі «Палітычная літаратура». Журы адзначыла кнігу В. Амеліны «Looking at Women, Looking at War (Гледзячы на жанчын, гледзячы на вайну)». Кніга была апублікаваная ў 2025 годзе ў выдавецтве «William Collins». Яна спалучае дзённікавыя запісы, інтэрв'ю, рэпартажы з сайтаў пра ваенныя злачынствы ды паэзію і прысвечана не толькі вайне, але і жанчынам, якія яе дакументуюць і перажываюць. «Гэта ўспаміны пра вайну, якая яшчэ не скончылася. Аднак з першага раздзела і да канца сіла вобраза жанчын, якія назіраюць за вайной, няўмольная і неабходная, — адзначыла журы прэміі. — Аўтарка едзе ў адпачынак са сваім маленькім сынам, пакуль вайна пераследуе яе і ўсіх астатніх. Яна запаўняе заяўку на фінансаванне літаратурнага фестывалю, стоячы ў чарзе ў аэрапорце, правяраючы навіны па тэлефоне, думаючы пра свой новы пісталет і чаму яна, "недальнабачны кніжны чарвяк", вырашыла яго купіць. Так разгортваецца прыгожа напісаная кніга, тэхнічна незавершаная, але з трагічнай завяршанасцю».

Кніга расійскага гісторыка Уладзіслава Зубко «Свет халоднай вайны: 1945—1991» таксама ўвайшла ў спіс фіналістаў у намінацыі «Палітычная літаратура».

Прэмія імя Джорджа Оруэла штогод прысуджаецца Фондам Джорджа Оруэла за творы і рэпартажы, якія найбольш адпавядаюць імкненню пісьменніка «ператварыць палітычную літаратуру ў мастацтва». Яна прысуджаецца ў наступных намінацыях: за палітычную публіцыстыку, за палітычную прозу, публіцыстыку і за рэпартаж на тэму бяздомнасці.

## Прэмія імя Стэфаніка

Сталі вядомыя лаўрэаты ўкраінскай прэміі імя Васіля Стэфаніка за 2025 год. Па выніках тайнага галасавання ў намінацыі «Паэзія» камісія вызначыла лаўрэатам прэміі Івана Андрушку са зборнікам вершаў «За тенетами часу». У намінацыі «Проза» пераможцай стала Іванна Стэфюк з кнігай-малюнкам «Дідова правда». Прэмія ў намінацыі «дакументальная і навукова-крытычная літаратура (эстэтыка, літаратуразнаўства, мастацтвазнаўства, украіназнаўства, мастацкая публіцыстыка, крытыка, мемуарыстыка)» прысуджана Раману Кісялюку за кнігу «Світ потребує радості: гуцульські приповідки, прислів'я, коломийки». А ў намінацыі «Навелістыка» за зборнік «Ін'єкція» — Міхасю Буджаку. У намінацыі «Творы або працы, якія папулярызуюць творчасць Васіля Стэфаніка, у тым ліку напісаныя пісьменнікамі, якія пражываюць за межамі рэгіёна», пераможцам стала Аксана Цебешэўская за драматычную аповесць «Ой не коси, бузьку, сіна...».


Прэмія імя Стэфаніка

## Архіў Оруэла

Універсітэцкі каледж Лондана (UCL) набыў архіў Джорджа Оруэла, аўтара культавага рамана-антыўтопіі «1984», як «каштоўную частку культурнай спадчыны Брытаніі». Ён складаецца з 160 дакументаў: перапіска Оруэла, раннія рукапісы, кантракты і чытацкія агляды з 1934 па 1937 гады.

Дакументы даюць магчымасць зазірнуць у жыццё аднаго з самых уплывовых брытанскіх пісьменнікаў XX стагоддзя. Яны звязаны з чатырма яго раннімі апублікаванымі творамі: «Дачка святара», «Ніколі не адпускай аспідыстру», «Дарога да пірса Уіган» і «Унутры кіта». Дакументы захоўваліся ў дзясятках іржавых, пыльных шафаў...

## «Жывая» Агата Крысці

Агату Крысці «ажывілі» з дапамогай нейрасеткі. Брытанская тэлекампанія BBC выкарыстала штучны інтэлект дзеля таго, каб англійская аўтарка правяла курс пісьменніцкага майстэрства. Курс мае назву «Agatha Christie Writing».




Знакамітая пісьменніца памерла ў студзені 1976 года ва ўзросце 85 гадоў. Праўнук Агаты Крысці Джэймс Прычард патлумачыў, што каманда навукоўцаў і даследчыкаў «выняла з кніг пісьменніцы яе думкі і меркаванні аб тым, як трэба пісаць». Гаворка — пра структуру сюжэта, выбар персанажаў і мастацтва «нявызначанасці». Голас Крысці аднавілі на аснове захаваных запісаў, а аблічча пісьменніцы дапамагла ўзнавіць актрыса Віўен Кін. Курс даступны на анлайн-платформе BBC Maestro. Ён змяшчае 11 відэаўрокаў з 12 практыкаваннямі для будучых пісьменнікаў. Яго кошт складае £79.

«Упершыню ў свеце самая прадаваная пісьменніца ўсіх часоў дзеліцца сакрэтамі свайго творчага метаду, выкладзенымі ёй самой. Гэта стала магчымым дзякуючы сям'і Агаты, экспертнай камандзе вучоных і перадавых спецыялістаў у галіне аўдыё- і відэатэхнікі. Яна быццам сама навучае вас...» — сказана ў апісанні курса.

## Бібліятэкі пад ціскам?

У бібліятэках Вялікабрытаніі пачасціліся просьбы прыбраць з паліц кнігі, якія закранаюць тэмы ЛГБТ. Бібліятэкары і эксперты мяркуюць, што гэтая з'ява звязана з уплывам «груп ціску з ЗША», дзе такія забароны атрымалі масавы характар. Па словах бібліятэкараў, хаця сітуацыя ў Вялікабрытаніі не такая крытычная, як у ЗША, выпадкі цэнзуры ўсё ж здараюцца. Луіс Койфайт-Ган, генеральны дырэктар Інстытута дыпламаваных бібліятэчных і інфармацыйных спецыялістаў, адзначыў, што некаторыя супрацоўнікі бібліятэк нават страцілі працу або сталі ахвярамі інтэрнэт-тролінгу за абарону інтэлектуальнай свабоды. Асацыяцыя школьных бібліятэк таксама пацвердзіла павелічэнне колькасці запытаў на выдаленне кніг.

У ЗША 72% цэнзурных патрабаванняў былі ініцыяваныя арганізаванымі групамі. Даследчыца Элісан Гікс з Універсітэцкага каледжа Лондана апытала брытанскіх бібліятэкараў і выявіла, што некаторыя з іх сталі мішэнню амерыканскіх груп ціску, нават у сацыяльных сетках.

Часцей за ўсё ў Вялікабрытаніі падвяргаюцца цэнзуры кнігі на тэмы ЛГБТК+. Напрыклад, серыял «Калі спыняецца сэрца» Эліс Осеман пра каханне двух школьнікаў або «Адвага Білі» Тома Персіваля, які распавядае пра хлопчыка, які хоча пераапрануцца ў любімую супергераіню.

У ЗША падобныя напады накіраваны не толькі на кнігі ЛГБТК+, але і на творы пра расавую самасвядомасць і сацыяльную справядлівасць. Апытанне «Index on Censorship» паказала, што 28 з 53 брытанскіх бібліятэкараў сутыкаліся з падобнымі просьбамі прыбраць кнігі са сваіх паліц.

## Сын святара, які прадказаў будучыню

140 гадоў назад у сям'і святара Смаленскай губерні нарадзіўся вялікі фантаст Аляксандр Бяляеў, які прадказаў галоўныя дасягненні цывілізацыі.

Мабыць, ніводзін з фантастаў не мае такога ўражлівага спісу адкрыццяў, якія ўвасобіліся не проста ў чарцяжах, але і рэальна змянілі жыццё чалавецтва. Гэтая асаблівасць прозы Бяляева была заўважана не адразу. Больш за тое, многія яго фантазіі пры жыцці пісьменніка лічыліся бесперспектыўнымі і надуманымі. У адрозненне ад многіх іншых пісьменнікаў Аляксандр Бяляеў на першы план ставіў менавіта вынаходства, і ўжо потым вакол яго «накручваў» сюжэт. Так з'явіліся падводныя апараты, якія транслявалі выявы са дна мора, падводныя фермы, калязямная станцыя КЭЦ («Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі»), атамная энергетыка.

Далёка не ўсе творы Бяляева адрозніваліся бляскам стылю і псіхалагічнай глыбінёй. Частка тэкстаў сам пісьменнік адмаўляўся перавыдаваць пры жыцці, лічачы іх недасканалымі, што, несумненна, таксама з'яўляецца адметнай рысай сапраўднага мастака. І, тым не менш, сёння мы можам прасачыць, якія прадказанні спраўдзіліся, а якім яшчэ трэба будзе ўвасобіцца.

Адным з асноўных «адкрыццяў» Аляксандра Бяляева стала атамная энергетыка ў рамане «Цудоўнае вока». І хоць галоўнымі героямі твора ўсё ж з'яўляліся падводныя робаты, якія перадаюць малюнак на паверхню, — новае паліва, якое дапаможа чалавецтву ступіць у будучыню, з'явілася ў кнізе задоўга да атамных электрастанцый і ракет з ядзерным рухавіком.

Аквакультура з «Падводных земляробаў», якая павінна была вырашыць гастранамічныя праблемы чалавецтва — сёння аснова развіцця выкарыстання Сусветнага акіяна. Менавіта з ёй звязана будучае развіццё, адрознае ад ранейшага промыслу, як падсечнае земляробства бронзавага веку ад сучасных аграхолдынгаў. Касмічная «кніжная» станцыя КЭЦ не толькі дазволіла выйсці чалавеку ў адкрыты космас, але і адкрыць небяспечныя для чалавека выпраменьванні (якія выклікаюць мутацыі арганізма), а таксама здзейсніць пасадку на Месяц. Сучасныя беспілотнікі лёталі ва ўяўленні пісьменніка задаўга да іх з'яўлення. Радыёлакатары, інтравізары ды іншая тэхніка — усё гэта стала рэальнасцю ўжо пасля таго, як хлапчукі, апантаныя ідэямі пісьменніка, пайшлі ў навуку дзеля ўвасаблення сваіх юнацкіх захапленняў.


Аляксандр БЯЛЯЕЎ. 1915 г.

І ўсё ж самыя вядомыя «адкрыцці» пісьменнік здзейсніў у галіне медыцыны. Калі ў 1924 годзе ў газеце «Гудок» з'явілася апавяданне «Галава прафесара Доўэля», ніхто не ведаў, што, апісваючы свой бездапаможны стан, закаваны ў гіпсавы гарсэт пасля сухотаў костак, Аляксандр Бяляеў апярэдзіў навуковае адкрыццё, якое да гэтага часу бударажыць свет. Калі ў нашыя дні Сержыа Канавэра ў Пекіне рыхтуецца да ўнікальнай аперацыі па перасадцы галавы ад чалавека чалавеку, аперацыі, ужо неаднаразова праведзенай на лабараторных жывёлах, менавіта гэтае апавяданне ўсплывае ў памяці, становячыся і тэхнічным, і маральным стымулам ды адначасова перасцярогай чалавецтву.

Але ёсць і тое, пра што вучоныя пакуль нават не мараць. Іхтыяндр з рамана «Чалавек-амфібія» з'яўся толькі ў якасці сплагіячаных кінагерояў у галівудскіх блокбастэрах «Водны свет» і «Форма вады». Людзі пакуль не навучыліся лётаць, падобна герою рамана «Арыэль», як і «Прадавец паветра» ўсё яшчэ выношвае планы па атрыманні звышпрыбытку ад продажу чыстага паветра...

***Аляксандр РЖЭШЭЎСКІ***

Літаратурная Беларусь

Адрас электроннай пошты:
litaraturnaja.bielarus@gmail.com

З новымі электроннымі нумарамі «Літаратурнай Беларусі», а таксама з яе мінулагоднімі выданнямі можна пазнаёміцца на інтэрнэтрэсурсах.